# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015




27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

8 ліпеня 2016 года №28 **(1106)**





**Дзяўчаты-двайнікі: аднолькавыя ад прычосак да гарбінкі на носе**

старонка 18

**Валожын: скраў карабельны звон у мастака і прадаў спеваку**

старонка 4

Мастацкая гімнастка Любоў Чаркашына: **"Калі касячу, муж называе Фабіа Капэла"**

старонка 22

**На першым фестывалі "Энергія маладосці" ў Вілейцы адкрылі скейт-парк**

старонка 2



# АДНА ЗЯМЛЯ-2016

**Фестывальны глобус конкурсу эстраднай песні з Астраўца паехаў у Смаргонь**

**Уладальніца прыза глядацкіх сімпатый фестывалю-конкурсу "Адна зямля", заснаванага "Рэгіянальнай газетай", Злата Мінкілевіч з Астраўца.**

старонкі 20-21

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Маладзечна – горад для маладых?

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулую сераду моладзевыя актывісты і проста неабыякавыя маладзечанцы сустрэліся на ток-шоу, якое ініцыявала культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", каб задаць і адказаць на пытанне: ці можа Маладзечна стаць сапраўдным горадам для моладзі, дзе да жаданняў і ініцыятыў маладых лідараў будуць прыслухоўвацца.**

**Моладзі ў Маладзечне – 26%.**

Акрамя дзяржаўных устаноў культуры, моладзь мае магчымасць з карысцю бавіць час на розных курсах, гульнях, удзельнічаць у суполках і аб'яднаннях: "Мова Нанова", "Мазгабойня", "Розум-шоу", клуб творчасці "Дыялог +", этна-клуб "Кола", "Жывая бібліятэка" ды іншыя.

Наколькі сама моладзь актыўна карыстаецца існуючымі магчымасцямі ды стварае новыя падзеі? – гэта пытанне было накіраванае да **Вольгі Трубач**, педагога, журналісткі, арганізаткі "Тутэйшых квэстаў".

– Апошнім часам сапраўды назіраецца пэўны выбух, мы арганізоўвалі дударскія вечарыны. Для Маладзечна гэта была падзея. Калі з'явіўся ўваходны квіток, іх папулярнасць знізілася, – распавядае Вольга. – Увогуле, цікавасць да гэтага ёсць: не проста да самой культуры, але і да формы падачы. Гэта праводзілася ў бары, у нефармальнай абстаноўцы. Пасля вячорак, якія ладзіў краязнаўца **Цімох Акудовіч**, адзін аднаго знайшлі людзі, што цікавіцца этна. Цяпер у Маладзечне ёсць клуб "Кола". Яго прыхільнікі выбучаюць строі, праводзяць святы і абрады.

Клуб творчасці "Дыялог +" існуе ў Маладзечне ўжо 15 гадоў. Усе гэтыя гады яго нязменным кіраўнікоў з'яўляецца **Марына Валасковіч.**

З клуба творчасці вырас і фестываль "Час жыць", які сёлета адбыўся ўжо пяты раз і з кожным годам набывае ўсё большы размах і маштаб.

А пачалося ўсё некалькі год таму.

– У моладзі, не толькі ў Маладзечне, актыўна загучала тэма суіцыду як спосабу вырашэння праблем, – гаворыць Марына. – Дзяўчына прынесла вершы, хлопец прынёс апавяданне, нехта іншы прынёс сцэнар пантамімы. Так сабралася вельмі шмат творчых выказванняў пра жыццё. Пакідаць такое багацце толькі ў межах клуба было проста недаравальна! Назва прыйшла сама па сабе.

Здавалася б, у горадзе ўсё цудоўна: працуе шмат аб'яднанняў, ладзяцца фестывалі. Але…

### "Трэба нешта рабіць, каб мне было што тут рабіць!"

З залы цягнецца рука.

– Я сама з Віцебска. Калі сюды прыехала, я была ў трансе. Культурная сталіца Беларусі? Не! – выпаліла дзяўчына, якая прадставілася Аленай.– Месцы ёсць, кавярні ёсць – людзей няма. Канцэрт "БГ" не адбыўся, бо не раскупілі квіткі, затое на фестывалі шансону ўвесь горад! Я зразумела, трэба нешта рабіць, каб мне было што тут рабіць!.."

– Я пачала рабіць "Жывую бібліятэку". Аказалася, так складана дамовіцца з сайтамі, каб яны размясцілі тваю аб'яву не за грошы…" – паскардзілася актывістка **Юлія Мароз.**

– Праблема ў Мінску! Усе едуць адпачываць за 65 кіламетраў! – выкрыквае яшчэ адзін удзельнік сустрэчы.

Кампанія "Будзьма" запрасіла на сустрэчу людзей з розных гарадоў Беларусі, каб тыя распавялі, чым сітуацыя ў іх гарадах прынцыпова адрозніваецца ад маладзечанскай.

На сустрэчы прысутнічалі віцебскі каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" **Уладзімір Булаўскі**, дырэктар бабруйскага тайм-клуба "1387" **Наталля Халанская**, тэхнічны дырэктар магілёўскага Цэнтра гарадскіх ініцыятыў **Аляксандр Лазараў.**

У канструктыўнае рэчышча размову скіроўвае Уладзімір Булаўскі:

– Калегі, я бачу тут пачатак для будучага клуба арганізатараў.

### "Калі вас сабраць у адным горадзе, будзе ідэальны горад для моладзі"

Прысутныя з вялікай цікавасцю выслухоўваюць прэзентацыі запрошаных выступоўцаў пра "кухню" культурных падзей і прастор у Віцебску, Бабруйску і Магілёве.

Уладзімір Булаўскі расказаў пра досвед школы менеджараў у Віцебску. Цяпер горад мае цэлую супольнасць прафесійных арганізатараў, здольных дамаўляцца ды супрацоўнічаць у самых розных мерапрыемствах.

Наталля Халанская падзялілася досведам памылак і поспехаў свайго малога бізнесу – тайм-клуба "1387".

– Бабруйск – самы круты горад! Мінск павінны ехаць да нас! Што я для гэтага раблю? Сядаю і пішу: "Давайце да нас!", – тлумачыць сваё стаўленне да працы Наталля.

Цэнтр гарадскіх ініцыятыў у Магілёве шыкоўна ўмее знаходзіць агульную мову з мясцовымі ўладамі, бізнесам, жыхарамі і разрозненымі актывістамі. Аляксандр Лазараў расказаў пра арганізацыю гучнага івента "Дранік-фэст" ды іншых удалых праектаў.

Напрыканцы сустрэчы слова бярэ галоўны спецыяліст па працы з моладдзю аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Валянціна Даўбенка**. Яна прыйшла на ток-шоу не столькі па службе, колькі з асабістага жадання.

– Тое, што я пачула ад гасцей – мая старая мара. Калі вас сабраць у адным горадзе – гэта будзе ідэальны горад для моладзі, – прызнаецца Валянціна Феліксаўна. – У нас вельмі шмат ініцыятыўных людзей. Праблема ў тым, што няма сацыяльнага партнёрства. У нас у Маладзечне часта бывае так: ноччу асяніла, на раніцу прыйшоў да Валянціны Феліксаўны, каб яна зрабіла. Прабачце, я не магу. Ёсць планы і правілы.

З працяглай размовы стала зразумела, што ў Маладзечне неабходна праводзіць кірмаш ідэй і праектаў. Моладзі неабыякавай у горадзе дастаткова, але ці змогуць яны аб'яднацца, знайсці агульную пляцоўку і падтрымку сваіх ідэй, пакажа час, застаецца толькі спадзявацца, што не вельмі далёкі.

**Наталля ТУР.**

Фота Зарыны КАНДРАЦЬЕВАЙ

**Падчас ток-шоў выказваліся меркаванні наконт таго, як зрабіць Маладзечна горадам прывабным для моладзі.**

## На першым фестывалі "Энергія маладосці" адкрылі скейт-парк і абсыпаліся фарбамі

ВІЛЕЙКА

Фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці" прайшоў у гарадскім парку Вілейкі 1 ліпеня.

Урачыста адкрылі скейт-парк, які пабудавалі на месцы колішняй танцпляцоўкі. Выступіў спявак **Саша Нэма**, прайшлі паказальныя выступленні і спаборніцтвы па скейтбордынгу і па роварах BMX.

Побач паказвалі майстэрства і спаборнічалі аматары воркаўту – як хлопцы, так і дзяўчаты.

Паўсюдна хадзілі абсыпаныя моднымі фарбамі Холі юныя вяляйчане – на свяце праходзіў фестываль HoliDance. Яшчэ наведнікаў чакалі забаўляльная праграма і велаквэст, майстар-клас па скандынаўскай хадзе, рок-канцэрт і розныя забавы.

Ініцыятарам правядзення фестывалю стала грамадскае аб'яднанне па ўстойлівым развіцці Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК".

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.**

**Віляйчане цяпер могуць вучыцца прыгожаму скейтбордынгу і ладзіць спаборніцтвы.**

**Воркаўт – не толькі карысны занятак, але і вельмі відовішчны.**

# Як мы прывыкаем да новых грошай

**Напэўна, усім жыхарам краіны было цікава 1 ліпеня паглядзець, як выглядаюць новыя грошы. А вось віляйчаніну Андрэю Гайчуку хацелася гэтага моманту ўдвайне.**



Фота Маргарыты ФРАНТКЕВІЧ.

Маргарыце Франткевіч новыя грошы даспадобы.

Мужчына калекцыянуе банкноты Беларусі, таму імкнуўся як мага хутчэй атрымаць свежыя купюры.

### Паляваў за новымі грашамі

– Спачатку знімаў грошы ў банкамаце "Беларусбанка" ў Вілейцы, – расказвае мужчына. – Было гэта а восьмай раніцы. Банкамат быў пераведзены на новыя грошы, але па запыце 10 рублёў атрымаў 100-тысячную купюру старога ўзору. А 11 гадзіне дня атрымаў новыя купюры.

Па адчуваннях мужчыну больш даспадобы новыя купюры: і колерам, і аздабленнем, і памерам. Тым больш, нечым нагадваюць еўра.

– Пакуль не разлічваўся новымі грашамі, аднак падзяліўся ўбачаным з калегамі, – дзеліцца віляйчанін. – Заблытацца не баюся, думаю, да новых грошай прывыкнем хутка. Галоўнае – хутчэй вывесці старыя з абарачэння.

### "Выраз твару касіра быў бясцэнны"

Маладзечанец **Сяргей Алексяеўскі** працуе ў Мінску, таму новыя грошы зняў там.

– Цікава было і саму паглядзець на іх, і калегам таксама, – дзеліцца мужчына. – Па адукацыі я эканаміст, таму асаблівага страху перад новымі грашамі няма.

Як адзначае маладзечанец, ён быў першым у магазіне, хто разлічваўся новымі грашамі.

– Выраз твару касіра ў гэты момант быў бясцэнны, – пасмейваецца Сяргей. – Твар напружыўся, у вачах праглядаўся страх. Здачу мне далі правільна, аднак старымі купюрамі.

Мужчына прызнаецца: з аднаго боку была цікавасць, як адрэагуюць прадаўцы на новыя грошы, з іншага – у такую спёку проста нельга адмовіць сабе ў марожаным.

### Спачатку разгубілася

**Маргарыта Франткевіч** прызнаецца, што ёй вельмі спадабаліся новыя грошы.

– Каляровыя, акуратныя, кароценькія, зручныя для кашалька, – расказвае дзяўчына. – Спачатку крышачку разгубілася, але разабралася хутка, нават на касе дапамагла прадаўцу правільна рэшту выдаць. Манет пакуль не бачыла, але, думаю, яны мне таксама спадабаюцца.

**Галіна СІНІЦА.**

## Прадаўцы: цэны ў тысячах будзем называць да новага года

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніца дэнамінацыі ў грамадскім транспарце і магазінах для маладзечанцаў нічым асаблівым не вызначылася.**

– Называю пасажырам кошт праезду – 40 капеек, каб самой хутчэй прызвычаіцца да новых грошай, – расказвае кандуктар **Лідзія Карпіцкая**, – але ніхто не разумее, даводзіцца паўтараць у тысячах. Новых грошай яшчэ ў вочы не бачыла. І расплачваюцца старымі, і рэшту даю старымі.

Кіроўца аўтобуса **Аляксандр Мартышкін** прызнаўся, што дэнамінацыя яго не палохае, бо бачыў іх ужо дзве ці тры. А вось тое, як сам будзе даваць пасажырам рэшту капейкамі, калі будзе працаваць без кандуктара, уяўляе слаба.

У магазінах таксама раніца ажыятажу не выклікала.

На касе ў магазіне касір мне:

– З вас 18 тысяч.

**– Тысяч? Не рубель васемдзесят?**

– У тысячах называем і да новага года будзем называць, – адказала касір **Валянціна Пішчаліна**, – новых грошай на рэшту нам не выдалі, усе расплачваюцца таксама старымі.

У чэках сума таксама старая, у тысячах.

– Мы хоць і раздрукавалі сабе падказкі, але пакуль не пабачыш новыя грошы, пакуль туды-сюды іх не аддасі, не атрымаеш, не патрымаеш у руках, не апячэшся на памылках, не прывыкнеш, – падсумавала спадарыня Валянціна.

Для большасці людзей пераход на новыя грошы – забаўная гульня. Многім дзецям цікава гуляць з манеткамі, яны паказваюць іх адзін аднаму ў садку. А сярод ахоўнікаў банка мы чулі размову пра небяспеку.

У адным з маладзечанскіх банкаў ахоўнік распавядаў знаёмаму:

– Новыя грошы і новыя грошы, нічога незвычайнага для людзей. А вось уяві, як інкасатарам, калі ў банкамат адразу мільярд загружаеш.

**Наталля ТУР.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.06 | 7.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 20 053,00 | **2,0159** |
| Еўра | 22 210,00 | **2,2299** |
| Злоты | 5 023,00 | **2,0159** |
| Расійскі рубель, 100 | 312,12 | **3,1181** |
| Грыўня, 100 | 805,30 | **8,0627** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 6.07** | | |
| Еўра | 22000/22400 | **2.2000/2.2400** |
| Долар ЗША | 20000/20300 | **2.0000/2.0150** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.06 | | 6.07 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 143 700 | 14,37 | 143 700 | 14,37 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 200 | 3,12 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | 8,00 | 80 000 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 125 000 | 12,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | 2,15 | 24 700 | 2,47 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16 500 | 1,65 | 16 500 | 1,65 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 500 | 0,95 | 9 500 | 0,99 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 77 900 | 7,79 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 500 | 0,85 | 9 500 | 0,95 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 14 000 | 1,40 | 5 000 | 0,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 39 500 | 0,95 | 29 500 | 2,95 |
| Лімоны, 1 кг | 50 000 | 5,00 | 54 900 | 5,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 23 000 | 2,30 | 24 500 | 2,45 |
| Мандарыны, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 29 000 | 2,90 |
| Нектарыны, 1 кг | 38 500 | 3,85 | 39 900 | 3,99 |
| Абрыкосы, 1 кг | 37 500 | 3,75 | 34 500 | 3,45 |
| Ківі, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 26 500 | 2,65 |
| Буракі, 1 кг | 12 500 | 1,25 | 12 500 | 1,25 |
| Памідоры, 1 кг | 23 000 | 2,30 | 23 000 | 2,30 |
| Агуркі, 1 кг | 8 500 | 0,85 | 9 900 | 0,99 |
| Перац, 1 кг | 59 500 | 5,95 | 29 900 | 2,99 |
| Кавун, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 13 000 | 1,30 |
| Дыня, 1 кг | 38 000 | 3,80 | 35 000 | 3,50 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 11 900 | 1,19 | 10 900 | 1,09 |
| Вінаград, 1 кг | 50 000 | 5,00 | 55 000 | 5,50 |
| Бананы, 1 кг | 22 900 | 2,29 | 22 500 | 2,25 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 500 | 1,45 | 12 900 | 1,29 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 10 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 11 000 | 1,10 | 11 000 | 1,10 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |


Фота Наталлі ТУР.

Чаму "Аўдзі" спынілася на пуцеправодзе, што спраўвакавала аварыю чатырох машын, чытайце ў наступным нумары.

## На пуцеправодзе сутыкнуліся чатыры машыны

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя з удзелам чатырох машын: "Аўдзі", "Мазда", "Міцубісі" і "Нісан" здарылася каля 13 гадзін 1 ліпеня.

Што стала прычынай таго, што "Аўдзі" раптам затармазіла на пуцеправодзе, пакуль невядома.

Рух там быў ускладнены. Левая паласа ў бок плошчы Старое Места была занятая машынамі, якія пацярпелі ў аварыі.

Машыны, што праязджалі па правай паласе, наўмысна спынялі рух, каб разгледзець аварыю.

Каментар ДАІ па гэтай аварыі чытайце ў наступным нумары.

**Наталля ТУР.**
**Больш фота на сайце rh.by**

## Міліцыянеры вярнулі гаспадыні сумку, забытую на канцэрце


Фота Яўгена КАЖАМЯКІНА.

Старшына Андрэй Шаўчэнка і радавы Вадзім Батызатаў.

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося падчас канцэрта "Песня года Беларусі-2016".

Каля 22:45 міліцыянеры заўважылі на лаўцы каля цэнтральнага ўваходу ў парк забытую жаночую сумку. Яны апыталі некалькіх прахожых, але гаспадыню аксесуара не знайшлі.

Тады міліцыянер роты патрульна-паставой службы старшына **Андрэй Шаўчэнка** і ваеннаслужачы 3-й патрульнай роты вайсковай часці 3310 радавы **Вадзім Батызатаў** запрасілі панятых.

Пры аглядзе супрацоўнікі знайшлі два тэлефоны, партаманет з грашамі на агульную суму 700 рублёў (сем мільёнаў рублёў) і акуляры. Паставы знайшлі ў тэлефонным даведніку аднаго з тэлефонаў кантакт "сястра". Міліцыянеры звязаліся з жанчынай і патлумачылі, што адбылося.

Шчаслівая гаспадыня атрымала сумку ў райаддзеле міліцыі.

**Уладзімір ПАРХОМЦАЎ.**


Фота youtube.com.

Рында пры сваім прамым прызначэнні.

# Скраў карабельны звон у мастака і прадаў спеваку

ВАЛОЖЫН

**Гісторыя няўдалага прадпрымальніцтва скончылася крымінальнай справай у Следчым камітэце.**

Пра гэта распавяла следчая Валожынскага Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

Жыхар адной з вёсак Валожынскага раёна Н. ад 2012 года працаваў у аднавяскоўца, мастака. Гаспадар прасіў дапамагаць з будаўнічымі работамі і разлічваўся за гэта. Работнік працаваў, але часам сыходзіў у запой.

Летась у лістападзе Н. прыйшоў у двор мастака. Гаспадара дома не было, а мужчыну вельмі трэба было выпіць. Ён знайшоў у гаспадарчай пабудове латунны звон і скраў яго.

– Прычым гэта не проста звон, а рында – адмысловы звон для карабля, і важыць больш за чатыры кілаграмы, – удакладняе Юлія Селятыцкая. – Адкуль гэты звон і для чаго, мы не высвятлялі – усё ж гаспадар чалавек мастацтва, напэўна, для нечага спатрэбіўся.

Н. скрадзены звон прапанаваў не вельмі знакамітаму спеваку, якому якраз менавіта рында і была ў гэты момант патрэбная. Мужчына ацаніў звон у 20 рублёў (200 тысяч рублёў), а ў інтэрнэт-крамах на сувенірныя рынды ставяць цэннік ад 100 рублёў (ад аднаго мільёна рублёў).

Прадавец атрымаными грошы аддаў на алкаголь, які хутка выпіў. Праз чатыры дні ён прыйшоў у двор іншага аднавяскоўца і скраў там балгарку. Знайшоў пакупніка, якому аддаў інструмент таксама за 20 рублёў (200 тысяч).

У вёсцы жыхары ведаюць, што схільны выпіць, і пабойваліся купляць тое, што ён прадаваў. Але мужчына знаў, як угаварыць. Пра рынду ён зманіў, што знайшоў яе пры разборы старой лазні, а пра балгарку сказаў, што яна была яго інструментам.

Пацярпелыя не звярталіся ў міліцыю з заявай аб скрадзеным. Тым не менш, міліцыянерам паступіла інфармацыя пра злачынства, і супрацоўнікі звярнуліся да пацярпелых. Тыя прызналі, што ў іх скралі рэчы, якія ім вельмі патрэбныя. Скрадзенае забралі ў тых, каму яго прадалі. Н. прызнаны падазраваным, прызнаў сваю віну. Яму прызначаная судова-псіхіятрычная экспертыза.

У гэтым месяцы следчая рыхтуе справу для перадачы яе пракурору.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ". Рында** – карабельны звон, у які б'юць кожныя паўгадзіны для пазначэння часу, выкарыстоўваюць для сігналу аб пажарнай трывозе і пры тумане. Тры ўдары ў рынду азначаюць поўдзень. Звычайна рынду ставяць на ўсе сучасныя караблі і судны.

## Шукаюць гаспадара машыны з падробленымі дакументамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанец купіў аўто з несапраўднымі дакументамі. Цяпер шукаюць папярэдняга гаспадара.**

Сёлета ў сакавіку маладзечанец праз аб'явы ў інтэрнэце падабраў для сябе транспартны сродак. "Кію-Спортэйдж", якая спадабалася яму, ён купіў з пакетам дакументаў у грамадзяніна Расіі праз пасярэдніка ў Рагачове Гомельскай вобласці.

Калі маладзечанец ставіў машыну на рэгістрацыйны ўлік у дзяржаўтаінспекцыі, аказалася, што атрыманыя дакументы несапраўдныя. Міліцыянеры правялі ў межах крымінальнай справы трасалагічную экспертызу і высветлілі, што транзітныя нумары маюць прыкметы падробкі, а VIкод зменены.

Каб высветліць усе абставіны, у межах папярэдняга следства высвятляюць асобу мужчыны, былога ўласніка аўто.

Прыкметы: на выгляд 35-40 год, рост каля 180 сантыметраў, хударлявы, цёмныя кароткія валасы. Быў апрануты ў чорны спартыўны касцюм з лагатыпам "Адыдас", чорныя з сінімі палоскамі красоўкі.

Прыкладаем яго выяву.



Калі вы валодаеце інфармацыяй пра асобу ці месцазнаходжанне гэтага мужчыны, просім паведаміць у Маладзечанскі РАСК па тэлефонах: **8(0176) 77-16-47, мтс 8 (029) 767-41-77 ці 102.**

Канфідэнцыяльнасць гарантуем.

**Таццяна БЕЛАНОГ,**
**афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.**

# літпарад Павілля




# Вілейшчына літаратурная: мясціны, імёны, творы

Літаратурная гісторыя і сучаснасць Вілейскага краю змяшчае ў сабе столькі знакавых дат, мясцін і імёнаў, што часам цяжка зарыентавацца і выбраць галоўнае, але паспрабуем.

І першае імя **Іван Фёдараў**... Так-так, вядомы кнігавыдавец, асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і Украіне ў 16 стагоддзі. Ёсць доказы, што родам ён з Вілейшчыны.

Пэўнае дачыненне да Вілейскага раёна меў гуманіст пісьменнік **Васіль Цяпінскі** (1540-1603). Ёсць звесткі, што ён валодаў маёнткам Цяпіно, недалёка ад вёскі Латыгаль.

**Іліер Менашэ** – вядомы талмудыст, вучоны асветнік 18-19 стагоддзяў, сам родам са Смаргоні, а ў Ілью трапіў у 17 год, ажаніўшыся з дачкой мясцовага рабіна. Памёр таксама ў Ільі ў час эпідэміі халеры. Пахаваны на старых яўрэйскіх могілках у вёсцы.

Яшчэ адна знакамітая асоба **Ігнат Ходзька** – класік польскай літаратуры, творы якога вывучаліся ў польскай школе да 1939 года – нарадзіўся ў маёнтку Заблошчына.

У 19 стагоддзі на Вілейшчыне вёў раскопкі **Адам Кіркор** – вядомы не толькі як археолаг, але і як гісторык літаратуры, публіцыст.

На тэрыторыі былога Вілейскага павета нарадзіўся паэт **Адам Гурыновіч** (1869 – 1894).

**Змітрок Бядуля** (Самуіл Плаўнік) – паэт, пісьменнік пачатку 20 стагоддзя – з 12 год вучыўся на яўрэйскага святара ў ешыбоце ў Даўгінаве, а ад 1899 да 1901 – у такой самай установе ў Ільі, пра што пасля расказваў у творы "У дрымучых лясах".

**Аляксандр Уласаў** – грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст, выдавец, першы рэдактар "Нашай нівы" нарадзіўся ў Вілейцы (1874 г.).

**Янка Купала** ў 1911 годзе прыязджаў на шклозавод "Залессе", пра што напісаў артыкул у "Нашу ніву".

Вёска Касічы – радзіма пісьменніка, журналіста, этнографа **Сымона Барыса** (нар. у 1937 годзе), аўтара кнігі "Нараченка і яе берагі", матэрыял пра якую быў змешчаны ў "РГ" і ў шэрагу іншых.

З дзіцячых гадоў на Вілейшчыне жыла паэтка **Ганна Новік** (1914 – 1977). Яе імя нададзена Вілейскай раённай бібліятэцы.

Сёння ў Вілейцы захаваўся будынак гімназіі, у якой вучыўся малады **Максім Танк**, а ў Ільі – сельсавет, дзе сустракаўся з вяскоўцамі **Янка Брыль**, калі ў 1980-я гады выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі па Ільянскай акрузе.

Літаратурнай мясцінай стала вёска Пятрылава. Тут ужо шмат гадоў жыве вядомы беларускі празаік **Леанід Леванові́ч.**

Вілейшчына "ўзгадавала" паэтаў **Дзмітрыя Новікава** (нар. у 1954-м) і **Леаніда Лукшу** (1933), паэта і перакладчыка, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў **Уладзіміра Папковіча** (1935), журналіста і літаратара **Уладзіміра Дубовіка** (1940 – 1986), паэта **Івана Вараўку** (1955), паэта члена Саюза пісьменнікаў Беларусі **Івана Лашутку** (1933 – 2004). У Івана Іосіфавіча ўсё жыццё было звязанае з Вілейшчынай: тут ён нарадзіўся, вучыўся ў школе і сюды вярнуўся настаўнічаць пасля заканчэння БДУ.

Плённа працуюць у Вілейцы і сустракаюцца з чытачамі рэгіёна члены Саюза пісьменнікаў Беларусі **Віктар Кажура** і **Уладзмір Цанунін**. А колішняя навучэнка Віктара Кажуры, віляйчанка **Бажэна Мацюк**, таксама стала членам Саюза пісьменнікаў Беларусі і праслаўляе родны горад, жывучы ў сталіцы.

Свае таленты дала Беларусі і невялікая вёсачка Шыпкі: тут нарадзіўся паэт і журналіст **Алесь Сівы**, гадавалася ў бабулі паэтка член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Іна Фралова**, навучаў дзяцей беларускай мове і нават спевам паэт, паэт-песеннік, паэт-перакладчык, кандыдат філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, дацэнт **Мікола Шабовіч**.

Шмат для роднай Вілейшчыны зрабіў краязнаўца былы аўтар "РГ" **Анатоль Рогач** (1947 – 2010) і працягваюць рабіць краязнаўца і паэт **Анатоль Капцюг**, член Саюза беларускіх пісьменнікаў празаік **Уладзімір Кажамяка**, член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Аляксандр Плавінскі**, малады пісьменнік і журналіст супрацоўнік газеты "Наша Ніва" **Сяргей Макарэвіч**, краязнаўца **Дзяніс Канецкі** і хлопцы-энтузіясты з таварыства "Ахова помнікаў Беларусі".

Шмат гадоў краявіды Вілейкі натхняюць на творчасць паэта **Барыса Манцэвіча**.

Яшчэ сёння ў Вілейцы стварае свае казкі член Саюза беларускіх пісьменнікаў **Зінаіда Губарава-Крупская**, радуюць чытачоў вершамі і новымі зборнікамі **Алесь Наркевіч** (член Саюза беларускіх пісьменнікаў), **Сяргей Паўлоўскі**, **Клаўдзія Дубовік**, **Роза Шарая** (кіраўнік школьнага народнага музея "Вілейшчына літаратурная"), **Мікола Кунавіч**, **Тацяна Цвяткова**, **Антаніна Гарчакова**, **Алег Бяганскі**, творчая сям'я **Галіны** і **Міколы Кутасаў** і многія-многія іншыя.

## Уладзімір Цанунін



Уладзімір Яфімавіч Цанунін, нарадзіўся 1 ліпеня 1954 года ў вёсцы Батвінаўка Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Бацькі працавалі настаўнікамі мясцовай школы, якую я ў 1971 годзе скончыў з залатым медалём.

У 1975 годзе пасля заканчэння гістфака Магілёўскага дзяржаўнага педінстытута стаў настаўнічаць у вёсцы Святая Воля Івацэвіцкага раёна. Праз год вярнуўся на радзіму, працаваў у Чавускім раёне, затым у Крычаўскім вучылішчы меліярацыі, у 1980-я гады пераехаў у родную вёску, у якой пражыў да аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Як перасяленца, лёс закінуў у вёску Папялёва на Пружаншчыне. Там, у Белавежскай пушчы, жыў у адным доме з беларускім паэтам Міколам Купрэевым.

У 1995 годзе па выніках конкурсу быў прыняты на працу ў беларуска-германскае дабрачыннае прадпрыемства "Надзея – XXI стагоддзе". Да пенсіі тут працаваў настаўнікам гісторыі і кіраўніком гуртка "Работа з дрэвам".

Вершы і песні пачаў пісаць яшчэ ў пачатковай школе. Першы раз надрукаваўся ў часопісе "Бярозка" ў 1967 годзе. Ад 2002-га з'яўляюся членам народнага клуба самадзейных паэтаў і кампазітараў "Жывіца", які ўзначальвае Ірына Карнавухава. Кожны год па ініцыятыве клуба выдаюцца зборнікі вершаў, сярод якіх ёсць і мае. Акрамя гэтага "Жывіца" выдала чатыры песенныя зборнікі і больш за дзясятку дыскаў, у якіх можна адшукаць мае песні.

Цяпер жыву ў Вілейцы. Удзельнічаю ў мясцовым літаб'яднанні "Натхненне". Друкаваўся ў чатырох зборніках нашага аб'яднання.

15 гадоў уваходжу ў народны калектыў аўтарскай песні "Элегія". Мы запісалі каля дзясятка ўласных дыскаў, удзельнічалі ў розных фестывалях, дзе часта станавіліся лаўрэатамі ("Лицедейство старого города" і "Лістапад" у Віцебску, "Восень-2005" у Польшчы і інш.). Пасля перамогі на фестывалі польскай нацыянальнай культуры ў Маладзечне мяне і маіх калег з "Элегіі" ў 2009 годзе прынялі ў Беларускі саюз музычных дзеячаў.

У 2010 годзе мною быў напісаны вершаваны тэкст да фільма "Горад на Вяллі", які заняў першае месца на конкурсе дакументальнага кіно.

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі ад 2014 года. Маю паэтычныя зборнікі: "У струменях часу", "Хто ж адкажа", "Зачараваная чаромха", "Пушчанскія галасы", "Да вогнішча далёкага юнацтва". У зборніку "Край верасовы" маіх вершаў больш за 50. Цяпер рыхтую да выдання зборнік гумарыстычных вершаў і анекдотаў "Люстэрка".

Жонку маю завуць Святлана. Яна да пенсіі працавала настаўніцай матэматыкі заўсёды ў адной школе разам са мной. Сын Дзмітры і дачка Алёна падарылі нам трох унучак: Стэфанію, Карыну, Марыю і ўнука Кірыла, пра якіх я напісаў вялікую нізку вершаў і думаю, што ў хуткім часе з іх атрымаецца кніжка для дзяцей пад назвай "Кветка Сонейка".

**Другімі не будзем**

На Вялікдзень крыштальных званоў карагод
узнімаецца ў неба над краем.
Мы – маленькі, але старажытны народ,
і традыцый сваіх не губляем.
Ёсць у кожнага хата, садок, агарод,
морам жыта хвалюецца ў полі.
Мы – маленькі, але працавіты народ,
не былі гультаямі ніколі.
Не ірвёмся на Захад, не прэм на Усход,
да суседзяў адносімся роўна.
Мы – маленькі, але вельмі мудры народ,
і разважлівы, і памяркоўны.

**Пабудую дом на гары**

Пабудую дом на гары,
Пасаджу навокал сады,
Каб з краёў далёкіх сябры
Прыязджалі ў госці сюды.
Навару салодкіх мядоў,
Каравай спяку немалы.
Па закону нашых дзядоў
Пасаджу сяброў за сталы.
Запрашу музыкаў сяла,
Каб зайгралі гучна маршы,
Каб да ранку песня гула
І кранала струны душы.
А на золку нам салавей
Запяе напеў дарагі –
Успамін жыццёвых завей
Рэхам адляціць у лугі.
Мы за рукі возьмемся ўсе,
І сярод ружовай зары
Басанож па чыстай расе
Пабяжым з высокай гары
Да крыніц святых, дзе вада
Зіхаціць бурштынам на дне.
І тады любая бяда
Стараной мой дом абміне.

**Над матухнай Вяллёй**

Пераспелі ў лузе прыгажуні-зёлкі,
Тумаоў над рэчкай белы сырадой,
У празрыстых росах мыецца вясёлка
І снуюць стракозы нізка над вадой.
На высокай кручы кратаюць аблокі
Дзідамі вяршыняў волаты-дубы.
Белыя лілеі пасярод затокі
Збіліся ў чародку, нібы галубы.
Між бяроз, на ўзлеску, водарам салодкім
Сцеле пах сунічны ветрык па зямлі
І хістае ветразь белакрылай лодкі
Над празрыстай гладдзю матухны Вяллі.
Так было спрадвеку і заўсёды будзе
З сонейкам уранку, з поўняй уначы.
І адна турбота застаецца людзям –
Гэты край чароўны вечна берагчы.

## Тарас Апарык



Тарас Валер'евіч Апарык. Нарадзіўся 29 сакавіка 1991 года ў Вілейцы. Поўных 25 гадоў жыву тут. Пасля заканчэння школы паступіў на факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ, які скончыў у 2013 годзе.

– Працаваў у розных месцах. І паўсюль знаходзіў натхненне для напісання вершаў і песень. Творчасцю займаюся з 2006 года. Асноўная мова напісання – расійская. Таму беларускамоўных вершаў ці песень у мяне няшмат.

Вершы друкаваліся у вілейскай газеце "Шлях перамогі", празаічныя эксперыменты размяшчаліся у самавыдавецкіх часопісах БДПУ імя Максіма Танка "Ківач Фуко" і "Дзэці Фуко".

Ад 2010 года стварыў гурт "Планета Усіх". Асобна і разам з гуртам прымаў удзел у розных фестывалях і канцэртах. За плячыма ўжо амаль сотня выступленняў па Беларусі і трохі па Расіі.

Удзельнік фестываляў і конкурсаў: "Вілейская хваля", "Зорка ўзышла над Беларуссю", "Новыя імёны Беларусі", фестывальнага адбору на перадачы "Подых струн" (на канале Беларусь-3), "Рамонская крыніца" (пад Варонежам), "Час жыць" (Маладзечна), "Карусель" (Магілёў), "Корнем-фэст" (Мінск), а таксама шэрагу лакальных музычных і байк-фестываляў па усёй Беларусі.

Порт. І хваля піўной пенай.
Чарнабровыя мурэны
Тых шукаюць, хто за грошы
Будзе грэцца іх цяплом.
І марак, п'яны да кішак,
Зазірае ў кілішак.
І не думае пра тое,
Што даўно не бачыў дом.
А вакол іх ходзяць людзі,
Ўсе з дакорам, нібы суддзі.
Але моўчкі, бо выдатна
Помняць моц іх кулака.
Караблі ўстаюць на якар,
Неба пачынае плакаць,
І вось нейкі смутак болем
Джаліць сэрца марака.
Тыя воды, тыя далі
Што ў сябе гады ўвабралі,
Надакучылі бясконца,
Сняцца сны аб берагах...
І ён часам сам не верыць
Ў тое, што існуе бераг,
Але вось дзянёк на сушы –
Пачынаецца туга.
Вось і млеюць небаракі,
Зазіраючы у пляшкі,
І сябе прыводзяць хутка
Ў нейкі першабытны стан.
Іх жыццё ў кругавароце,
А мараль сама прыходзіць:
Лепш за сушу толькі мора,
Лепш за мора –
акіян.

# У Еўропе толькі ў Маладзечне выкладаецца выцінанка

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечне завяршыў сваю работу 6-ы Міжнародны сімпозіум па праблемах выразання з паперы "Мастацкае выразанне: форма і колер".**



На адкрыцці часовай выставы ўдзельнікаў міжнароднага сімпозіума і выставы "Маладзечанская школа выцінанкі" музычнага каледжа імя Агінскага.

Фота прадстаўлена аргкамітэтам сімпозіума.

Ён праходзіў упершыню на беларускай зямлі і быў прысвечаны памяці знакамітых майстроў **Вікторыі Чырвонцавай** і **Вячаслава Дубінкі**.

Гасцей віталі дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці **Раіса Вайцяхоўская**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага **Рыгор Сарока** і заснавальнік сімпозіума навуковы супрацоўнік Дамадзедаўскага гісторыка-мастацкага музея **Ася Петрычэнка**. Паказаць сваё майстэрства і падзяліцца інфармацыяй аб выразанні з паперы прыехалі госці з Літвы, Украіны, Польшчы, Расіі, Беларусі.

Выбар месца правядзення сімпозіума невыпадковы. Прафесар, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Беларускага саюза майстроў **Яўген Сахута** адзначыў такую культурную з'яву, як Маладзечанская школа выцінанкі, у аснове якой ляжыць творчасць і педагагічная дзейнасць Вікторыі Чырвонцавай. Гэтаму садзейнічала, дзякуючы намаганням Рыгора Сарокі, стварэнне аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пры Маладзечанскім музкаледжы, якое існуе ўжо дваццаць год.

Як вызначылі госці, гэта адзіная ў Еўропе навучальная ўстанова, дзе выкладаецца выцінанка і ўведзеная ў спецыялізацыю "Мастацкія вырабы з саломкі, лёну і паперы".

Невыпадковай з'яўляецца і назва мерапрыемства. Як адзначыла Ася Петрычэнка, слова сімпозіум прыйшло з грэчаскай мовы і азначала "бяседу" як сход аднадумцаў, якія вялі рытуальныя дыялогі аб галоўным. На бяседзе катэгарычна забаранялася гаварыць аб палітыцы, добрых і дрэнных кіраўніках, аб грошах, злых і добрых людзях. Забаранялася гаварыць аб сваёй сям'і, дзецях, аб сваёй веры. Размовы вяліся толькі на філасофскія і літаратурныя тэмы. Менавіта такая форма давала поўную волю ў выбары тэм для дыскусій і стварала адкрытую атмасферу.

Па матэрыялах дакладаў сімпозіума выдалі зборнік. Працавалі дзве секцыі: "Навучанне і практычнае прымяненне" і "Гісторыя і рэгіянальныя асаблівасці". У дакладах першай секцыі распавядалася аб праграмах па выцінанцы для розных узростаў, падкрэслівалася яе важная роля ў фарміраванні свядомасці навучэнцаў. У другой секцыі слухачы маглі пазнаёміцца з асаблівасцямі народных і аўтарскіх выразак Украіны, Польшчы, Літвы, Расіі і Беларусі. Былі спробы асэнсаваць выцінанку як сучасны від мастацтва. **Вольга Бабурына** расказала, як яна ілюстравала Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

Падчас правядзення сімпозіума можна было наведаць шматлікія выставы. У выставачнай зале каледжа працавала выстава дыпломных і курсавых работ навучэнцаў сумесна з часовай выставай удзельнікаў сімпозіума. Гэта была сапраўдная арт-лабараторыя, дзе даваліся майстар-класы і ўдзельнікі абменьваліся работамі і літаратурай.

На адкрыцці выставы "Пялёсткі памяці", прысвечанай памяці Вікторыі Чырвонцавай, Наталля Чырвонцава прачытала даклад "Асоба і творчы метад В. Чырвонцавай", дзе зрабіла спробу асэнсаваць, як насуперак жыццёвым абставінам ці дзякуючы ім чалавек прыходзіць да рэалізацыі сваёй галоўнай мэты жыцця.

На выставе шырока прадставілі творы Вікторыі Чырвонцавай і яе навучэнцаў, якія складаюць маладзечанскую школу выцінанкі: Наталля Чырвонцава, **Лізавета Чырвонцава**, **Людміла Валковіч-Борыс**, **Наталля Сухая**, **Наталля Валькoвіч**, Вольга Бабурына, **Аксана Ралавец**, **Вольга Сарока**, **Ала Бажко**, **Вольга Харлінская**, **Вольга Маслава**, **Тамара Марчанкава**.

**Ася Петрычэнка ярка і натхнёна распавядала пра Вячаслава Дубінку, які амаль першым на Беларусі стаў выразаць з паперы. Выстава з яго работамі працавала ў Палацы культуры.**

Тры дні насычанай інтэлектуальнай і творчай работы далі добрыя вынікі. Сімпозіум адпавядаў сваёй назве – узяўшы за аснову выразанне з паперы як від мастацтва, гаварылі аб духу чалавека, які выяўляецца праз творчасць.

**Эгле Віндашэне** з літоўскага Каўнаса, супервізар гарадскога Цэнтра нацыянальнай культуры, са слязьмі на вачах расказвала, як дзеля яе выканаў музычны твор сімфанічны аркестр музкаледжа пад кіраўніцтвам Рыгора Сарокі.

Святочную атмасферу стварылі дзяўчаты і хлопцы з гісторыка-этнаграфічнага клуба "Кола", якія, узнаўляючы аўтэнтычныя традыцыі, спявалі і танцавалі для гасцей, а таксама натхнілі ўсіх на спевы украінскіх, польскіх, літоўскіх, беларускіх і рускіх песень. Удзельнікі вадзілі карагоды пад спевы і танцавалі разам з клубам "Кола".

У фонд аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва перадалі каля 60 работ удзельнікаў сімпозіума, а таксама шмат літаратуры па папяровым выразанні. Праз некаторы час з іх зладзяць выставу.

Наталля ЧЫРВОНЦАВА.

# На канцэрце Дзмітрыя Рудыка танцавала ўся плошча

ВІЛЕЙКА

**2 ліпеня ў Вілейцы адзначылі свята горада і Дзень вызвалення Беларусі.**

Свята панавала ў горадзе ўвесь дзень: былі і ўрачыстасці, і забавы.

А вечарам цэнтральная плошча сабрала віляйчан на канцэрт маладзечанца **Дзмітрыя Рудыка**, які ў апошнія выхадныя чэрвеня стаў пераможцам рэаліці-шоу "Народны шансон".

– Гуляў увесь горад, уся плошча танцавала, проста перад сцэнай! – захоплена распавядае Дзмітры. – Вілейка – нібы асобная краіна, у якой людзі нязмушаныя і адкрытыя.

Па ацэнках Дзмітрыя, на канцэрце, які пачаўся ў 22 гадзіны, было каля трох тысяч чалавек. За дзве з паловай гадзіны віляйчане пачулі 30 песень. Удалы дуэт Дзмітрыя з дырэктарам вілейскага Палаца культуры **Алесяй Высоцкай** прыйшоў даспадобы гледачам.

– Надвор'е было проста шыкоўнае, віляйчане паглядзелі прагноз, перш чым планаваць дату свята, – узгадвае спявак. – Выконвалі старыя і новыя хіты, а калі я заспяваў песню "Ах, Вілейка, жамчужына ля мора..." – як усе танцавалі! Мора пазітыву!

На саксафоне Дзмітрыю акампаніраваў выкладчык дзіцячай школы мастацтваў з Маладзечна **Аляксандр Ярмоленка**:

– Такі таленавіты, на ляту ўсё схоплівае, – заўважае Дзмітры пра ігру музыканта.

Канцэртам свята для віляйчан не закончылася. Спачатку ўсе атрымалі асалоду ад салюта, а пасля працягвалі весяліца на дыскатэцы, якую зладзілі таксама на цэнтральнай плошчы.

Канцэрт у Маладзечне, які планавалі правесці 3 ліпеня на прыступках кінатэатра, давялося перанесці пакуль на нявызначаны дзень. Прычынай стаў моцны дождж.

Зоя ХРУЦКАЯ.



Спявае Дзмітры Рудык.

Фота Вольгі ЖАРСКАЙ.

# ВІНШАВАНКА

**Дарагія Галіна СІНІЦА і Кірыл СУДНІКОВІЧ!**



Шчыра віншуем вас з тым, што вы яднаеце свае лёсы і ствараеце сям’ю!

Ва ўрачысты дзень вашага шлюбу вы пачуеце шмат прыемных слоў, якія для вас скажуць самыя блізкія людзі. Захавайце іх у памяці, каб прыгадваць у часы сумненняў. Вы атрымаеце столькі ўвагі, што ад хвалявання па скуры будуць бегчы мурашкі. Захавайце гэтыя пачуцці ў сэрцы, каб прыгадваць у перыяды штылю. Ваша свята будзе такім насычаным, што захочацца як мага хутчэй застацца сам-насам. Запомніце і гэта, каб у часы радасці адчуваць сябе шчаслівымі ўдвайне ад таго, што вы цяпер злучаныя сваім каханнем і жыццём.

Кахайце, шануйце адно аднаго і будзьце шчаслівыя. І памятайце, што шчасце — яно такое крохкае як шкло і толькі чыстыя як шкло адносіны змогуць захаваць яго.

**З пажаданнямі шчасця ў сям’і, сябры з “Рэгіянальнай газеты”.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-90, 1988 г.в, 2,0. На хаду. 2370 руб. Торг. Т. (8-025) 6353848.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Зіл-130, дызель Д245, самазвал- сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.



- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Вэлсаціс, 2003 г.в, хамелеон,2,2 dci, 7800 руб. Т. (8-029) 7046266.*
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в, 1,9 ТД, 4100 руб. Т. (8-029) 8755766.
- ФВ Т2, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*
- ФВ-Пола, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6647741.*
- Форд-Мандэа, 2000 г.в, 1,8 тд, сіне-зялёны колер, універсал. Т. (8-029) 3900633.*

## КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто, можна аварыйнае, не на хаду. Т. (8-029) 5677052.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, віброплita 500 кг, траншэякапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*



- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх. Т. (8-033) 6639658.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы на Зеніце, 51,1/16,4/13,3/8,9. Першы паверх 5-павярховага дома. Т. (8-029) 2572419.
- 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць, вул. Русанава, 15-10, 3 паверх 3-павярховага дома, 2002 г, пл. 78 кв.м. Тэрмінова. Нядорага. Агенцтвам не турбаваць. Т. (8-029) 9815919.
- 2-пакаёвая кватэра ў цагляным доме з лоджыяй у Маладзечне. Т. (8-029) 3553883.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Астраўцы па адрасе: зав. Кастрычніцкі, 7 (непадалёк ад ЦРБ). 1 паверх 2-павярховага 8-кватэрнага дома. 3 рамонтам. Падвал, гараж, участак з градкамі. Спакойны двор. Металічныя дзверы, шклопакеты. Магчымы продаж з мэбляй і бытавой тэхнікай. +375 44 778-48-34. Просьба званіць ад 19 да 22 гадзін. Цана дагаворная.
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК №1 у Вілейцы. Т. (8-044) 7350600, (8-044) 5331733.
- Гараж у ГБК №12 у Маладзечне, можна ў растэрміноўку. Т. (8-029) 7198959.
- Дача ў в. Кардон Вілейскага р-на. Дом, лазня, калодзеж, 7 сотак. Участак крайні, каля лесу. Т. (8-029) 2789116.*
- Дача ў СТ “Дачныя плёсы”. Т. (8-0176) 549903, Вэлком 9714018.
- Дача, 3,5 км ад в. Краснае. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, Вэлком 9751135.*
- Дом 70 кв. м, участак 15 сотак, сад. Т. (8-01771) 54399,21293, (8-044) 7638207.
- Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв. м, 0,15, часовая пабудова, сад. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.
- Дом у аг. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Асанава (5 км ад Маладзечна), 0,25 га, 104 кв. м, цэгла, газ, гараж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6103459.*
- Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 55349, маб. 858-75-18.*
- Дом у вёсцы Язжэнцы Мядзельскага р-на, 30 км ад Нарачы, побач рэкі Вузлянка і Нарачанка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы альбо абмяняю на 2-пакаёвую кватэру. Т. Вэлком (8-029) 3348878.*
- Дом у Маладзечне з усімі выгодамі, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом, 90 кв. м, цэгла, усе выгоды, пабудовы. Маладзечна. 130000 руб. Т. (8-033) 6605469.
- Домік у вёсцы. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 2667211.*
- Магазін 290 кв.м у Вілейцы, 220/380, вада, каналізацыя альбо здам у арэнду. Т. (8-029) 1969033.
- Палову дома ў Вілейцы ў р-не Незалежнасці, ёсць усе выгоды. Т. (8-033) 6368364.*
- Паўдома ў Вілейцы па вул. Стаханаўскай. Цана дагаворная. Т. (8-029) 2647536.

## ЗДАМ

- 3-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 8500258.*
- У арэнду вытворча-складскія памяшканні:190 кв. м, 90 кв. м – р-н ЗПМ; 290 кв. м – Сасновы Бор. Асобная тэрыторыя. ТАА “Малметалкантракт” УНП 691398156. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513.



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*
- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аграсядзіба “У Мароза” запрашае на адпачынак, банкеты. Т. (8-029) 6650884.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Відзаназіранне. GSM СІГНАЛІЗАЦЫЯ ДЛЯ ДОМА, ОФІСА, ДАЧЫ. ІП Новік С.С. УНП 691398368. Т. (8-029) 3608535.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Шафаловіч Д.С. УНП 690534457. Т. (8-033) 3129753, (8-029) 9814660.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Дзяўчаты-двайнікі: аднолькавыя ад прычосак да гарбінкі на носе

МАЛАДЗЕЧНА

**– Ой, а ў цябе таксама гарбінка на носе!**
**– Гэта я ў дзяцінстве аб арэлі стукнулася.**
**– А мне валейбольным мячом заехалі.**

У рэдакцыі размаўляюць дзве дзяўчыны, якія яшчэ 15 хвілін таму ўвогуле не былі знаёмыя, але яны так падобныя адна на адну!

– Яны аднолькавыя, але гэта не сёстры? – спытаецца ў мяне знаёмы, які ўбачыў на экране фотаздымак дзвюх дзяўчат.

Давайце нарэшце знаёміцца: **Ірына Мядзведзева і Юлія Жорава.**

Прыкладна месяц таму давялося мне быць у адной кампаніі. Непадалёк ад нас ішла дзяўчына.

– Гэта Ірына? – сталі абмяркоўваць мае спадарожнікі.

– Не, не Ірына.

– Калі гэта Ірына, то чаму яна не адгукаецца.

Падышлі, спыталіся.

– Ірына?

– Не, Юля.

Потым было яшчэ некалькі сітуацый, пасля якіх стала зразумела, што дзяўчат паміж сабой пазнаёміць трэба.

Першай у рэдакцыю прыйшла Ірына:

– Перад тым, як ісці сюды, я начыталася розных псіхолагаў. І ведаеце, што яны гавораць: пасля сустрэчы двайнікоў нехта з іх павінны будзе знікнуць назаўжды. Страшнавата нешта знаёміцца са сваім двайніком.

### Ірына: за некалькі дзён да сустрэчы я марыла пра двайніка

Ірына працуе доктарам лабараторнай дыягностыкі ў бальніцы. І жыве ў Маладзечне толькі год, трапіла ў горад сонца па размеркаванні. Напярэдадні яшчэ два гады адпрацоўкі. А нарадзілася Ірына ў Гомелі.

– Мне Маладзечна падабаецца, калі пашчасціць выйсці замуж і застацца тут, то лепшага месца шукаць не буду. Маладзечна мне родны Гомель і нагадвае. Такі ж прыгожы парк, наша Алея Перамогі вельмі падобная на ваш Брадвей. Нават і забаўляльныя ўстановы называюцца падобна: "Рэд Паб" у нас і "Рэд Бар" у вас.

Ірына, акрамя таго, што працуе ў бальніцы, яшчэ актыўна гуляе ў "Мазгабойню" і іншыя інтэлектуальныя гульні.

– У мяне каманда свая ёсць у Гомелі, і ёсць тут. І за некалькі дзён да таго, як ты пазваніла, я злавіла сябе на думцы, што не блага было б мець двайніка, каб мець магчымасць прысутнічаць у двух месцах адначасова.

Пра сябе Ірына кажа, што яна пячорны чалавек.

– Мяне рэдка можна сустрэць у горадзе, таму пра існаванне Юлі я не ведала. Не бачыла яе ніколі і ніхто са знаёмых мяне не блытаў. А яна ўвогуле існуе?

### Юля: мяне пастаянна прымаюць за некага іншага

Юля ж прызналася, што з ёй даволі часта ў горадзе вітаюцца не знаёмыя ёй людзі.

– А быў выпадак у маршрутцы, да мяне падсеў хлопец і пачаў балбатаць пра тое, дзе ўчора быў, нейкія імёны называў. Я на яго гляджу здзіўлена, і ён разумее, што штосьці не тое. І кажа: так, ты не магла мяне не пазнаць, значыць, гэта не ты. Цяпер разумею, хто была тая, – смяецца Юлія.

Юля працуе педагогам-арганізатарам у сярэдняй школе №12.

– Я з дзяцінства спявала, таму заўсёды марыла быць артысткай. А працуючы ў школе, спяваю на кожным свяце, так што часткова мара збылася. Ірыну замяніць на рабоце? Не, не змагла б. Доктарам ніколі сябе не ўяўляла. Хаця медыцынская форма падабаецца, ёсць у ёй нешта такое строгае і таямнічае.

У адрозненне ад Ірыны, Юля сябе тусоўшчыцай лічыць.

– Мяне толькі немагчыма сустрэць там, дзе сумна. І ў агарод ні за што не зацягнеш. І за рукадзеллем дакладна не заўважыш мяне. Гэта не маё.

Калі дзяўчаты ўсё ж сустрэліся, склалася адчуванне, што знаёмыя былі даўно. Ірына закрывала Юлі частку твару, каб дакладна зразумець, чым жа яны паміж сабой падобныя?

Акрамя аднолькавай гарбінкі на носе, дзяўчаты знайшлі шмат чаго агульнага, калі адказвалі на адны і тыя ж пытанні. Давайце разам параўнаем, ці нашмат адрозніваюцца адказы падобных знешне і абсалютна розных па тэмпераменце і нават узросце дзяўчат, якія да "Рэгіянальнай газеты" нават не бачыліся ніколі ў жыцці.

**Наталля ТУР.**




**Ірына Мядзведзева і Юлія Жорава хаця так і падобныя адна на адну, і жывуць у адным горадзе, але ў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" сустрэліся ўпершыню.**

| | Ірына | Юлія |
|---|---|---|
| **Калі святкуеце дзень нараджэння?** | 30 студзеня | 20 лютага |
| **Калі пара года, гэта?** | Лета | Лета |
| **Калі стыль у адзенні?** | Мы ж дзяўчынкі, як можна сказаць, што нашу, а што не? Рознае адзенне люблю. І ў розным адчуваю сябе камфортна. | Не магу сказаць, што аддаю перавагу нечаму аднаму. У розных сітуацыях розная. Не грэбую і абцасамі, але люблю і джынсы з кедамі. |
| **Калі кіно, то...?** | Камедыі. І люблю кіно з незвычайным, непрадказальным канцом. | Камедыі. Яшчэ люблю нешта такое псіхалагічнае, з нечаканай развязкай, калі фільм утрымлівае да апошніх хвілін. |
| **Мелодыя, якая стаіць на званку на тэлефоне?** | Red Hot Chili Peppers | Б'янка. |
| **Якая была мянушка ў дзяцінстве?** | Паколькі прозвішча ў мяне Мядзведзева, то і мянушкі былі ўтвораныя ад прозвішча: Мішка, Мішутка, Мядзведзік | Паколькі прозвішча ў мяне Жорава, то і мянушкі былі ўтвораныя ад прозвішча: Жорык, Жаржэта. |
| **Любімы ласунак?** | Сушы. Шакалад люблю, а вось да салодкага раўнадушная. Не люблю пірожныя. Торцікам мяне таксама не скарыш. | Марожанае. І ніколі не адмоўлюся ад мяса. Шашлыкі – гэта маё ўсё. Кожную раніцу пачынаю з кавы з малаком. Каваман я. |
| **Ідэальны мужчына, ён які?** | Галоўнае ў мужчыну – гэта розум і пачуццё гумару. А тоўсценькі ці лысенькі – не мае значэння. | Высокі, спартыўны, дужы. Каб за ім як за каменнай сцяной. |

**– Вы толькі абавязкова пасля нашай сустрэчы тэлефануйце нам кожны месяц, каб праверыць, ці не знік хто з нас. Псіхолагі ж такія псіхолагі. А раптам не жартуюць, – рассмяялася на развітанне Ірына. І паклікаўшы Юлю з сабой, дзве брунеткі сышлі з рэдакцыі.**

# Праведнік свету Мікалай Кісялёў

*Заканчэнне. Пачатак у №№23-27.*

Урэшце ва ўзнагароджанні адмовілі ўсім.

### Мірны час

Дзень Перамогі Мікалай Кісялёў сустрэў слухачом Усесаюзнай акадэміі знешняга гандлю. Да таго часу ён быў жанаты на Ганне Сіроткавай і ў іх нарадзіўся сын. Разведчыцай, якая ў жніўні 1942 года разам з атрадам Кісялёва пайшла за лінію фронту, рухала каханне...

Кісялёў атрымаў у штабе партызанскага руху Беларусі дакумент аб тым, што з лістапада 1941 года ён працаваў у падполлі. Але яму хацелася, каб не засталіся невядомымі людзі, з якімі ён ваяваў у тыле ворага і якія яму дапамагалі ў цяжкія часы. Бо многіх з іх, што рызыкавалі жыццём дзеля Перамогі, пасля вайны ўлады ніяк не адзначылі. Зразумела, што не дзеля ўзнагарод яны гэта рабілі, але простая справядлівасць патрабавала, каб заслугі партызан былі афіцыйна прызнаныя.

**У жніўні 1945 года Мікалай Якаўлевіч прыехаў з Масквы на Вілейшчыну для афармлення дакументаў аб сваёй падпольнай і партызанскай дзейнасці.**

За час знаходжання ў гэтым краі ён у поўным аб'ёме сабраў і аформіў усе неабходныя дакументы пра падпольную дзейнасць ільянскай групы "Перамога" і кожнага падпольшчыка паасобку. Акрамя таго, ён аднавіў спісы ўсяго саставу і асабовыя лісты па ўліку партызанскіх кадраў на кожнага байца партызанскага атрада "Перамога"! Асобна Кісялёў прадставіў дакумент на ўсіх партызан атрада, якія загінулі.

Толькі што адгрымела крывавая вайна, ніхто яшчэ толкам не паспеў ад яе акрыяць, а празорлівы Кісялёў ужо думаў пра будучыню. Дзякуючы яго намаганням у тым далёкім 1945 годзе мы зараз маем магчымасць даведацца не толькі ўсе этапы барацьбы гэтага легендарнага чалавека, але і кожнага яго баявога таварыша.

Аднак даведку аб тым, што ён быў камандзірам партызанскага атрада "Перамога" пасля вайны яму не выдалі. Дакументы былі аформленыя, зыходзячы з дадзеных па партызанскім атрадзе "Мсціўец" брыгады "Народны мсціўец"! Аб партызанскім атрадзе "Перамога" больш не было ні слова! Гэты этап барацьбы быў аддадзены поўнаму забыццю. Спісы партызанскага атрада "Перамога" ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь праходзяць як спіс асабовага саставу брыгады "Народны мсціўец". У сваю чаргу ў складзе брыгады "Народны мсціўец" гэты атрад не значыцца, паколькі брыгада была створаная пасля зыходу Кісялёва за лінію фронту!



Архіўнае фота.

Мікалай Кісялёў з жонкай Ганнай і дачкой Таняй. 1947 год.

Толькі ў XXI стагоддзі аб вывадзе яўрэяў з Вілейшчыны ў савецкі тыл успомнілі зноў. Быў зняты дакументальны фільм рэжысёра Юрыя Малюгіна, прадзюсара Якава Калера "Спіс Кісялёва". У Ізраілі ў 2005 годзе Мікалаю Якаўлевічу прысвоена званне Праведніка свету. У Даўгінаве імем патрыёта названая вуліца.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**

---

ГІСТОРЫЯ

# Выстава "Беларусы ў Войску Польскім"

**6 ліпеня ў Мінску ў Нацыянальным гістарычным музеі адкрылася выстава "Беларусы ў Войску Польскім".**

Выстава арганізаваная пры падтрымцы Пасольства Польшчы ў Беларусі.

Яна прысвечаная ўдзелу беларусаў у складзе Войска Польскага ў баявых дзеяннях супраць нацыстаў на розных франтах Другой сусветнай вайны. Госці выставы могуць пабачыць унікальныя фотаздымкі, дакументы і іншыя артэфакты з калекцыі беларускага гісторыка **Ігара Мельнікава**.

Ігар Мельнікаў, кандыдат гістарычных навук і аўтар кніг "Заходнебеларуская Атлантыда 1921-1941 гг." і "Мяжа ля Заслаўя 1921-1941 г." выставіць фота, дакументы і розныя артэфакты з асабістай калекцыі, звязаныя з ураджэнцамі Заходняй Беларусі, якія ваявалі на баку Польшчы ў Другой сусветнай вайне.

Мельнікаў называе ўдзел беларусаў у польскім войску даволі маштабнай з'явай: у верасні 1939 года, з пачаткам Другой сусветнай вайны, там апынуліся 70 тысяч беларусаў.

Праблема ў тым, што пра іх забылі ў Беларусі, – тлумачыць гісторык. – І калі на навуковым узроўні нешта ўгадвалася, то беларускае грамадства забылася на гэтую з'яву. Асабліва на ўсходзе, бо на захадзе яшчэ нешта памяталі з аповедаў дзядуляў-бабуляў. Гэтыя 70 тысяч беларусаў пачалі з першага дня вайны змагацца з нацызмам, зрабілі першы крок да перамогі. Насамрэч, яны прайшлі ўсю вайну – з 1939 года. Пазней шмат з іх трапілі ў савецкі палон, былі дэпартаваныя.

Але пасля дамовы Сікорскі-Майскі 1941 года (аб аднаўленні дыпламатычных адносінаў СССР з Польшчай, скасаванні савецка-нямецкіх дамоў 1939 года аб падзеле Польшчы, вызваленні 400 з лішнім тысяч палякаў у СССР. – радыё "Свабода") была створаная армія Андэрса (польскае войска пад польскім камандаваннем, створанае на савецкай тэрыторыі. – РС), у склад якой трапілі тыя самыя арыштаваныя, у тым ліку з Заходняй Беларусі, у тым ліку этнічныя беларусы.

Яны вызвалялі Еўропу, у тым ліку Італію ў знакамітай бітве пад Монтэ-Касіна, у баях у Нармандыі, у бітве за Брытанію ў 1940 годзе.

Яны пазней апынуліся ў складзе 2-га Польскага корпусу, які вызваляў Еўропу. У тым ліку Італію ў знакамітай бітве пад Монтэ-Касіна, у баях у Нармандыі, у бітве за Брытанію ў 1940 годзе. Апошняй прысвечаны цікавы стэнд: польскія эскадрыллі тады ўнеслі вялікі ўнёсак у абарону Брытанскіх астравоў і не далі нацыстам правесці наземную аперацыю. І ў тых эскадрыллях было шмат этнічных беларусаў, а ў Беларусі пра гэта амаль не згадваецца.

Таксама мала хто ведае, што шмат беларусаў служыла да вайны ў Корпусе аховы памежжа (створаным у 1924 годзе ў Польшчы для "змагання з бальшавіцкімі бандамі на ўсходнім памежжы". – РС). Цікава распавесці, як функцыянавала гэтая мяжа".

**Паводле www.swaboda.org**

---

КАЛЯНДАР

8 ЛІПЕНЯ

**140 гадоў** з дня нараджэння Цёткі (сапр. Алаіза Пашкевіч; 1876 – 1916), беларускай паэтэсы, удзельніцы рэвалюцыйнага руху, адной з пачынальніц беларускай прозы.

**155 гадоў** з дня нараджэння Магдалены Радзівіл (1861–1945), дзеяча беларускага культурнага руху, мецэнаткі.

10 ЛІПЕНЯ

**235 гадоў** з дня нараджэння Антонія Марцінкоўскага (1781-1855), пісьменніка, мемурыста, рэдактара-выдаўца, ураджэнца Радашкавічаў. Скончыў Мінскую гімназію і Віленскі ўніверсітэт. Заснаваў прыватную друкарню, адкуль выйшла звыш 400 назваў кніг розных галін ведаў. Удзельнічаў у складанні зборніка "Збор старажытных грамат гарадоў Вільні, Коўна, Трокаў…".

**75 гадоў** з дня нараджэння (1941) Уладзіміра Цеслюка, рэжысёра, аператара дакументальнага кіно, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

11 ЛІПЕНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Янкі Чабора (Іван Сцяпанавіч Патаповіч, 1911 – 1943), беларускага пісьменніка.

**95 гадоў** назад (1921) у Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

13 ЛІПЕНЯ

**150 гадоў** з дня нараджэння Напалеона Чарноцкага (1866 – 1937), беларускага перакладчыка і публіцыста.

14 ЛІПЕНЯ

**200 гадоў** з дня нараджэння Геранімa Марцінкевіча (1816–1864), беларускага і польскага паэта, празаіка, драматурга.

**105 гадоў** з дня нараджэння Паўла Пруднікава (1911 – 2000), пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Найбольш значным у яго творчасці з'яўляецца шэраг твораў, прысвечаных жудасам сталінскіх рэпрэсій. Менавіта яго творы з'яўляюцца аднымі з самых яскравых у беларускай літаратуры на гэтую тэму. Адметнасцю творчасці паэта з'яўляецца тое, што ён увасобіў распавед пра гэта ў вершаванай форме (паэмы "Таймыр", "Кожны другі", нізка вершаў "Балючая памяць"). Паэмы і апавесці ўтрымліваюць апісанне шматлікіх рэальных выпадкаў, што адбыліся на вачах аўтара.

***

**1911** (ліпень-жнівень) – 105 гадоў таму ў Ракуцёўшчыне жыў і працаваў Максім Багдановіч.

**1906-1907** – 110 гадоў таму назад у Яхімоўшчыне жыў і працаваў Янка Купала.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Уладальнік Гран-пры конкурсу “Адна зямля-2016” 26-гадовы Павел Данілаў з Маладзечна.

# Уладальніка Гран-пры Паўла Данілава расчуліла прызнанне

АСТРАВЕЦ

**Сёлета журы “Адной зямлі” сярод усіх выканаўцаў адзначыла прадстаўніка Маладзечаншчыны.**

У размове з “РГ” 26-гадовы маладзён распавёў, чаму выступае пад псеўданімам, якія думкі праносіліся ў галаве, калі ўзнагароджвалі іншых, абмінуўшы яго, і што галоўнае для спевака, які едзе за перамогай.

Павел прыгадвае момант, калі ўсе ўдзельнікі стаялі на сцэне, кожны ўжо атрымаў узнагароду: хто прызавое месца, хто спецыяльную намінацыю, а хто дыплом удзельніка. А Павел так і стаяў на месцы. У самы хвалюючы момант ён напружана сціскаў пераносіцу, а калі вядучы абвясціў яго уладальнікам Гран-пры, малады чалавек проста не змог стрымаць слёз:

– Калі ўручалі ўзнагароды, я застаўся без усяго, нават без дыпломчыка за ўдзел. А як назвалі мяне, дзяўчаты з падтанцоўкі крычалі ад радасці, а вось я быў гатовы проста зваліцца долу. Не верыў сваім вушам, а на наступны дзень хадзіў і не разумеў, як гэта ўсё адбылося.

Павел не ўпершыню ўдзельнічае ў конкурсах, у тым ліку “Адной зямлі”. У 2012 годзе ў Вілейцы выступаў у канцэртнай праграме, у Астраўцы ў 2011 заняў трэцяе месца. А найвышэйшую ўзнагароду маладзён атрымаў упершыню:

– Мне вельмі важна, што прафесіяналы ацанілі маю працу, гэта было нечакана.

Маладому чалавеку падабаецца “Адна зямля” за тое, што дорыць шмат знаёмстваў:

– Пазнаёміўся з хлопцам, якога прымацавалі да нас у 2011 годзе, сябруем і сёння. І на гэты год рыхтуем для ўсіх сюрпрыз. На фестывалі спяваюць шмат цікавага, гэта дадаткова развівае.

Павел на конкурсе выбраў песні “Як жаніўся камар” і “Свечкі”. Першую, на беларускай мове, параіў выканаць выкладчык **Пётр Туронак**:

– Яна вясёлая, энергічная, і кампазітар маладзечанскі – **Алена Атрашкевіч**, – тлумачыць выбар спявак.

Пад яе **Ірына Новаш** паставіла танец, які выканалі выхаванкі ўзорнай студыі эстраднага танца “Візаві” маладзечанскага Палаца культуры **Валерыя Паляковіч**, **Анастасія Чаркасава**, **Аліна Целяжэвіч**, **Варвара Лобач**. Кіраўнік судыі **Віталь Залога**.

– Дзяўчаткі вясёлыя, заўсёды на пазітыве, падтрымлівалі не толькі мяне, але і ўсіх удзельнікаў. Цяпер пішчаць, хочуць на ўсіх канцэртах яе танцаваць.

Другой песняй Павел абраў лірычную кампазіцыю Аляксандра Крывашапкі “Свечкі”:

– Яе выбіраў душой, яна раскрывае сутнасць многіх праблем, – распавядае пераможца. – Я веру ў пачуцці, з якімі выконваў песні. Для мяне галоўным было данесці да слухача ўсё неабходнае з гэтых кампазіцый.

Павел распавёў і пра тое, чаму выступае пад псеўданімам:

– Гэта з-за сямейных абставін. Бацька не прымаў удзелу ў выхаванні і цяпер нават не хоча бачыцца. Выбраць новы псеўданім было не цяжка. Гэта прозвішча майго прадзядулі, у гонар якога мяне і назвалі.

Для лепшай арганізацыі фестывалю ў наступныя гады Павел рэкамендуе прадугледзець крыты навес для журы і гледачоў, замацоўваць за дэлегацыяй з раёна чалавека з горада, дзе праходзіць фестываль, каб уздымаў дух і ўдакладняў патрэбныя моманты. А выступоўцам рэкамендуе засяроздзіцца над тым, каб перадаць сэнс твораў і пражыць тое, што яны спяваюць.

Павел Данілаў запрашае на сольны канцэрт “Пра каханне праспяваю ўсе песні”, які адбудзецца 21 жніўня ў маладзечанскім амфітэатры. Пачатак а 19 гадзіне, уваход платны.

У канцэрце вы пабачыце **Леаніда Куляша** з дэбютам на сцэне, лаўрэата 2 ступені Нацыянальнага фестывалю “Маладзечна-2016” **Ніну Жукоўскую**, салістку студыі “Бельканто” Палаца культуры **Дашу Радкевіч**, **Вольгу Злотнікаву** са студыі Fashion і харэаграфічны калектыў “Візаві”.

**У наступным годзе “Адна зямля” пройдзе ў Смаргоні.**

P.S. (Пасля свята)

Штогод пасля конкурсу ў журы, выканаўцаў і гледачоў паўстае пытанне: ці магчыма зрабіць свята песні сапраўдным святам, не ператвараючы яго ў мучэнне? Сёлета прагучала 86 песень. Конкурс доўжыўся больш за 8 гадзін. А калі ўявіць сабе, што ўсё гэта адбывалася пры тэмпературы + 34, слова “мучэнне” зусім не падаецца перабольшваннем.

Хочацца спадзявацца, што на будучы год арганізатары прадумаюць гэтыя пытанні. Тым больш, журы сцвярджала, што, каб выявіць пераможцу, дастаткова адной песні. Так хочацца пасля конкурсу сказаць “Вау”, а не “Нарэшце, гэта скончылася”.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

## Уладальнікі прызоў у спецыяльных намінацыях

- “Прыз глядацкіх сімпатый” ад “Рэгіянальнай газеты” – **Злата Мінкілевіч**, 29 гадоў, Астравецкі раён.
- “Удалы дэбют” – **Беніямін Грыгаран**, 11 гадоў, Валожынскі раён.
- “Удалы дэбют” – “За яркае ўвасабленне вобразу Радзімы” – **Сяргей Кіндзякоў**, 9 гадоў, Мядзельскі раён.
- “Удалы дэбют” – “Творчая надзея” – **Ульяна Лугін**, 9 гадоў, Ашмянскі раён.
- “Лепшы сцэнічны вобраз” – **Вікторыя Крук**, 21 год, Маладзечанскі раён.
- “За высокае выканаўчае майстэрства ў Год культуры” – **Алег Уласік**, 23 гады, Астравецкі раён.
- Спецыяльны прыз ад газеты “Астравецкая праўда” – **Раман Віткевіч**, 8 гадоў, Астравецкі раён.

**Фота з конкурсу глядзіце на** Rh.by




Віялета Кузьміна, 9 гадоў, Смаргонскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 8 да 13 гадоў.




Лізавета Хадасевіч, 16 гадоў, Маладзечанскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 14 да 17 гадоў.




Алеся Сяргейчык, 21 год, Валожынскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 18 да 23 гадоў.




Юры Ігнаровіч, 27 гадоў, Астравецкі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 24 да 31 года.

# Удзельнікі фестывалю-конкурсу "Адна зямля-2016"

Сёлета ў фестывалі "Адна зямля" ўдзельнічалі 43 юныя спевакі. Як і год таму, абавязковай для выканання была адна песня беларускамоўная ці беларускіх аўтараў, другая – на выбар удзельнікаў. У адрозненне ад мінулага года, песень, якія выконваліся паўторна, амаль не было. Двойчы выконвалі песню "Балада пра маці" Яўгена Мартынава. У фестывалі ўзялі ўдзел 32 дзяўчыны і 11 хлопцаў. 20 удзельнікаў фестывалю вярнуліся дамоў з прызамі.

Нумар уверсе фота азначае месца, якое заняў удзельнік фестывалю.




Вікторыя Саванец, 10 гадоў, Вілейскі раён.




Кацярына Паўловіч, 15 гадоў, Маладзечанскі раён.




Ірына Кулагіна, 24 гады, Мядзельскі раён.




Сяргей Савіцкі, 20 гадоў, Астравецкі раён.




Арцём Скароль 10 гадоў, Ашмянскі раён.




Вольга Касцюкевіч, 17 гадоў, Смаргонскі раён.




Лада Лянкевіч, 18 гадоў, Маладзечанскі раён.




Вольга Гіршык, 24 гады, Мядзельскі раён.



Беніямін Грыгаран, 11 гадоў, Валожынскі раён.



Дар'я Місюк, 9 гадоў, Маладзечанскі раён.



Ульяна Лугін, 9 гадоў, Ашмянскі раён.



Любоў Шчарбакова, 31 год, Ашмянскі раён



Раман Віткевіч, 8 гадоў, Астравецкі раён.



Мікалай Гарбачэўскі, 12 гадоў, Маладзечанскі раён.



Крысціна Ягорава, 17 гадоў, Ашмянскі раён.



Марыя Шумчык, 15 гадоў, Валожынскі раён.



Мілана Соніч, 10 гадоў, Валожынскі раён.



Сяргей Кіндзякоў, 9 гадоў, Мядзельскі раён.



Паліна Сярмяжка, 11 гадоў, Смаргонскі раён.



Ксенія Кімса, 17 гадоў, Астравецкі раён.



Ангеліна Захарэўская, 17 гадоў, Ашмянскі раён.



Аляксандра Рынкевіч, 14 гадоў, Смаргонскі раён.



Аляксандра Шаюк, 17 гадоў, Валожынскі раён.



Марыя Гатауліна, 16 гадоў, Вілейскі раён.



Ірына Храмцова, 15 гадоў, Вілейскі раён.



Іна Гарошка, 17 гадоў, Маладзечанскі раён.



Вікторыя Крук, 21 год, Маладзечанскі раён.



Вольга Буянава, 21 год, Мядзельскі раён.



Алег Уласік, 23 гады, Астравецкі раён.



Канстанцін Яраш, 23 гады, Ашмянскі раён.



Аксана Квач, 22 гады, Валожынскі раён.



Ангеліна Таўстыка, 18 гадоў, Вілейскі раён.



Кацярына Пратасевіч, 24 гады, Смаргонскі раён.



Вікторыя Дайноўская, 24 гады, Маладзечанскі раён.



Злата Мінкілевіч, 29 гадоў, Астравецкі раён.



Кацярына Кулевіч, 25 гадоў, Астравецкі раён.



Кацярына Есмантовіч, 27 гадоў, Валожынскі раён.



Вераніка Пташнік, 25 гадоў, Вілейскі раён.

# Футбаліста “Ашмянаў” моцна збілі нібыта за арганізацыю дамоўленага матча

АШМЯНЫ

**23-гадовага футбаліста Сяргея Булынёнка 2 ліпеня збілі пасля матча 11-га тура першай лігі чэмпіянату Беларусі паміж камандамі “Ашмяны”-“Прамень” (Мінск).**

Паўабаронца ў мінулым сезоне дапамагаў “Крумкачам” здабываць тур у вышэйшую лігу.

Цяпер выхаванец школы мінскага “Тарпеда” знаходзіцца ў аддзяленні нейрахіругіі ў сталічнай бальніцы “хуткай дапамогі”. Спартсмену сказалі, што яму спатрэбіцца аперацыя.

Сам футбаліст пра свае прыгоды пасля шарагорвай суботняй гульні распавёў наступнае:

– Пазаўчора ў нас быў матч з мінскім “Праменем”. Пасля гульні ехалі дадому, у аўто былі я і яшчэ чатыры чалавекі. І калі ад’ехалі недалёка ад Ашмянаў, нас спынілі два аўтамабілі. Адзін падрэзаў злева, другі быў ззаду. Выскачылі пяцёра дужых узброеных хлопцаў у масках і пачалі нас выкідаць з салона.

І калі астатніх проста паклалі тварам на асфальт, рукі за галаву, то мяне ўдарылі па твары, хоць супраціву я не аказваў. Потым сталі пытацца ва ўсіх імя і прозвішча. Калі паднялі мяне, запыталі: “Ты ў курсе, што гэта такое?”. Адказаў: “Не, не ў курсе”.

“Вы цяпер згулялі дамоўлены матч, – кажуць. – Мы бачылі вашу каманду напярэдадні вечарам у парку, дзе вы размаўлялі з літоўцам з нагоды выніку матча з “Праменем”.

Але Сяргей сцвярджае, што што нічога не разумее, хто гэта такія і што яны збіраюцца з намі рабіць, было страшна за сваё жыццё. І калі яго паставілі перад камерай, то сказаў усё, што ад яго патрабавалі: “Так, я там быў”, і іншае трызненне ў такім ключы”.

– Потым нас пасадзілі ў розныя машыны, мяне павезлі ў аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй у Мінску і Мінскай вобласці. І тады мне стала спакайней, зразумеў, што знаходжуся ў сценах дзяржаўнай установы.

Пачаўся допыт, і я сказаў на камеру тое, што і падчас захопу, бо баяўся за сваё жыццё. Яны ўсё гэта запісалі ў пратаколе.

Адпусцілі Сяргея, паводле ягоных слоў, каля гадзіны ночы. З братам яны ездзілі па паліклініках і бальніцах. У выніку ў футбаліста дыягнаставалі зрушэнне сківіцы, пераломам скулы і костачкі пад вокам.

– Сказалі, што каля двух тыдняў трэба лячыцца ў бальніцы. Астатніх хлопцаў таксама дапытвалі, пасля чаго адпусцілі.

Бацькі Сяргея Булынёнка паехалі даведацца, што адбылося. Выявілася, былі затрыманыя яшчэ людзі з футбольнага клуба “Прамень”. Нібыта нейкі літовец некаму з гульцоў нейкія грошы перадаваў, вядзецца расследаванне.

– Што далей? Сказалі, што вядзецца расследаванне і што з’явіліся нейкія вынікі. А што тычыцца збіцця пры затрыманні, то растлумачылі, што не могуць кантраляваць гэту групу захопу, якую наймаюць, – распавёў Сяргей Булынёнак.

Матч паміж “Ашмянамі” і “Праменем” скончыўся ўнічыю – 3:3. Прычым падчас сустрэчы “Ашмяны” двойчы вялі з розніцай у два мячы, але прапусціўшы трэці гол на 82-й хвіліне з пенальці.

“Ашмяны” займаюць апошняе месца ў першай лізе, а “Прамень” да візіту да аўтсайдара размяшчаўся на 3-м радку, але пасля нічыёй споўз на 4-ю пазіцыю.

Збіты сілавікамі пры затрыманні і абвінавачаны імі ва ўдзеле ў дамове Сяргей Булынёнак выйшаў у гэтым матчы на замену на апошняй 90-й хвіліне пры ліку 3:3, які потым не змяніўся.

Як патлумачылі ў прэс-службе МУС, у гэты дзень пасля гульні ў Ашмянах праводзіліся затрыманні па падазрэнні ў арганізацыі дамоўленага матча. Пры гэтым пяць ўдзельнікаў гульні, якія, на думку аператыўнікаў, маглі мець дачыненне альбо ведаць пра тое, што матч дамоўлены, паспрабавалі ўцячы.

На трасе Ашмяны — Мінск пасля спынення машыны супрацоўнікі міліцыі ў цывільным адзенні абвясцілі ўцекачам, чаму іх спынілі, і паказалі службовае пасведчанне. Чацвёра выканалі патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі і выйшлі з аўтамабіля.

Аднак, як адзначае МУС, футбаліст ФК “Ашмяны” Сяргей Булынёнак адмовіўся выйсці з машыны. Ён адхіліўся на заднім сядзенні аўтамабіля і некалькі разоў ударыў нагамі ў грудзі супрацоўніку спецпадраздзялення. Таму да яго ўжылі фізічную сілу.

Дзеяннем Булынёнка ў супраціве міліцыі дадуць прававую ацэнку. Устанаўліваюцца іншыя фігуранты крымінальнай справы.

**“Наша Ніва” паводле Tut.by.**



**“Першы час я вельмі ганарылася сваёй тату, выстаўляла руку. А потым забылася. І калі лаўлю на сваёй руцэ нейчы зацікаўлены позірк, пачынаю церці руку, быццам чым запэцкалася. Фота са старонкі Любові Чаркашынай у facebook.**

# Любоў Чаркашына: “Калі я касячу, муж называе мяне Фабіа Капэла”

МАЛАДЗЕЧНА

**Мастацкай гімнастцы Любе Чаркашынай – 28 гадоў. І нягледзячы на тое, што яна бронзавая прызёрка Алімпійскіх гульняў у Лондане, сябра выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, Любоўю Віктараўнай яе называць ну ніяк не паварочваецца язык.**

Яна Люба – дзяўчына, з якой хочацца ездзіць на матацыкле на вялікай хуткасці, рабіць тату і вар’яцкія прычоскі.

Але нельга – муж не дазваляе.

– Віця адгаворвае мяне ад многіх рэчаў, і дзякуй богу. Хацела набыць матацыкл, пераканаў, што не трэба. Хацела займацца боксам – зноў не дазволіў.

Адзінае, ад чаго не ўтрымаў, ад эпатажнай стрыжкі. Некалькі гадоў таму прыгажуня Люба пагаліла сабе скронь.

– Муж адразу стаў называць мяне – мой брат. А ўвогуле, ён мяне падколвае часта. Калі раблю нешта добра і з імпэтам, заве Маўрынья, калі касячу – Фабіа Капэла.

Любоў Чаркашына выйшла замуж яшчэ ў 2008 годзе за былога футбаліста **Віктара Малашку.**

На пытанне, ці самы блізкі ёй чалавек муж, Люба паціскае плячыма:

– Ну, як тут скажаш, ці блізкі? Віцька – мой. І ўсё тут. А калі пачынаеш разважаць, то як не назваць блізкімі тату, сястру?

А на пытанне, як змяніла яе замужжа, адказвае:

– Я зразумела, што цяпер у мяне ёсць сям’я. І я не магу выратаваць цэлы свет.

**Самае дарагое СМС-паведамленне для Любы, гэта калі пасля Алімпіяды ў Лондане тата ёй даслаў адно слова: “Дачушкавіншую”. Вось так, у адно слова, без прабелаў.**

– Я калі ўявіла, як ён стараўся, калі набіраў яго, так цёпла становіцца.

Пасля Алімпіяды ў Лондане ў Любы засталася не толькі бронзавы медаль, СМС ад таты, але і татуіроўка ў выглядзе пяці алімпійскіх кольцаў.

– Упершыню я загарэлася такой татуіроўкай яшчэ на Алімпіядзе ў Пекіне. Тады там у кожнага другога спартсмена было такое тату ў выглядзе кольцаў. Але ў Пекіне прызёркай я не стала, а рабіць тату проста таму, што я з’ездзіла на алімпіяду, гэта як рабіць тату з курорта, дзе ты калісьці адпачываў. А вось пасля Лондана пра мару сваю ўспомніла ў Італіі. І тут жа, ужо познім вечарам, мяне сябры адвялі да татуіроўшчыка, які і зрабіў мне тату на руцэ. Першы час я вельмі ганарылася, хацела пахваліцца, выстаўляла руку. А потым забылася. І калі, бывае, лаўлю на сваёй руцэ нейчы зацікаўлены позірк, пачынаю церці руку, быццам чым запэцкала.

У мастацкую гімнастыку Любу прывялі бацькі, калі ёй было дзевяць гадоў.

З тым, што гэта руцінны і кансерватыўны від спорту, Люба не згодная катэгарычна.

– Калі ставіцца да ўсяго, як да руціны, то яно і будзе такім, – перакананая Люба Чаркашына. – А ў нас дзяўчаты ў гімнастыцы такія, што кожная можа такое “адмачыць”.

А што датычыцца купальнікаў і аднолькавых прычосак, Люба адказала:

– І да сёння самым прыгожым купальнікам лічу чорны купальнік зборнай СССР з вышытым залатым гербам. А што датычыцца прычосак, якую тут асаблівую рэвалюцыю ўстроіш? Валасы гімнастак павінны быць зачэсаныя назад, каб бачыць кожную лінію, кожны выгіб цела. Адзінае, што ў гімнастыцы ніколі не дапусцяць, дык гэта таго, каб гімнастка выступала ў балетнай пачкы.

Купальнікі гімнасткі шыюць за свой кошт. Адзін купальнік каштуе за чатыры тысячы долараў.

– Калі перад Алімпіядай у кватэры віселі мае два купальнікі, муж хадзіў побач і ўздыхаў: “Наша новая машына вісіць”.

Пасля спаборніцтваў купальнікі прадаюцца, бо няма сэнсу захоўваць такія дарагія рэчы. А гімнасткі з іншых краін іх з задавальненнем купляюць.

Сёння Люба трэніруе дзяўчат-гімнастак, з якімі яшчэ ўчора была адной камандай.

– Калі прыйшла на першую трэніроўку, было няёмка: ну як гэта, яшчэ ўчора разам трэніраваліся, а сёння я ўжо каманду, як зрабіць лепей. А трэнер я жорсткі. Пакуль гімнастка ідэальна не зробіць патрэбны элемент, буду крытыкаваць.

Пры ўсёй сваёй жыццярадаснасці, адкрытасці, шчырасці, усё ж захацелася запытацца, а ці бывае гэтаму байцу крыўдна, балюча?

– Толькі муж ведае, як я перажываю з-за некаторых сітуацый, як плачу. Мяне можна зламаць, але гэтыя наступствы бачыць толькі муж. Часта даводзіцца зацыраваць сябе і рушыць далей.

Але Люба за свае 28 гадоў перакананая, што ў кожнай справе ёсць левы і правы бок. І гэта вялікая мудрасць мець магчымасць выслухаць і прыняць два бакі.

P.S. Развітваліся з Любай з традыцыйным сэлфі на памяць.

– А ведаеце, я люблю журналістаў. І пытанні, ад якіх, гаворачы нашай спартыўнай тэрміналогіяй, “ягадзічкі падціскаюцца”.

**Наталля ТУР.**




## “Цяпер кабачкі люблю і я”



На падыходзе ў дачнікаў кабачкі, а на рынку іх ужо вал. Стравы з кабачкоў мала хто не любіць. Аднойчы чула такую размову між мужчынамі: “Мая жонка нагатавала нейкай бурды з кабачкоў і паставіла на стол. Я ж спачатку і не глядзеў у іх бок. Але ўсё ж пакаштаваў. Аказваецца, вельмі смачна. Цяпер кабачкі люблю і я”.

Рэцэпт гэтай стравы прыехаў з Амерыкі. Хто ні каштаваў – усім спадабалася. Спадзяюся, што вы таксама будзеце задаволеныя.

### Запяканка з кабачкоў

*1 кг кабачкоў, 3 цыбуліны, 5 яек, 500 г плаўленага сыру, 50 г алею, спецыі – на смак.*

Наражце кружочкамі кабачкі, цыбулю. Пасаліце, пасыпце спецыямі і акуратна перамяшайце. Сыр наражце пласцінкамі і перамяшайце з кабачкамі. Дадайце алей і пастаўце на маленькі агонь. Увесь час перамешвайце, пакуль сыр не расплавіцца.

Форму для запякання змажце маслам. Узбіце яйкі і злучыце іх з кабачкамі, перамяшайце і выкладзіце ў форму. Пастаўце ў разагрэтую духоўку да 180-190 градусаў. Час выпякання залежыць ад глыбіні формы – 15-25 хвілін.

### Гарачыя бутэрброды з кабачкамі

1 багет, 2 маладыя кабачкі, 150 г сыру галандскага, 2 яйкі, 1 пучок кропу, 2 пярынкі цыбулі, 2 зубкі часнаку, соль і перац – на смак.

Багет разрэжце на 4 часткі, затым кожную з іх разрэжце ўздоўж напалам. Кабачкі пачысціце і надзярыце на буйной тарцы. Зялёную цыбулю і кроп дробна пасячыце. Сыр надзярыце на сярэдняй тарцы.

Надзёртыя кабачкі адцісніце, каб пазбавіцца ад лішняй вадкасці. Дадайце да кабачкоў сыр, зялёныя цыбулю і кроп, здробнены часнок, яйкі, пасаліце, паперчыце, добра перамяшайце.

Бляху змажце маслам. Пакладзіце часткі багета, на кожную пакладзіце некалькі лыжак начынкі.

Запякайце 15 хвілін пры тэмпературы 180 градусаў. Смачна есці.

*Да гэтых страў можна дадаваць і дробна* парэзаную кураціну.

**Проста МАРЫЯ.**

### ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | 6 | | 8 | | | |
| | | 1 | | 3 | | 4 | | |
| | 9 | 6 | | | 1 | | | 2 |
| 9 | | | | | | | 1 | 8 |
| | | | | 2 | | | | |
| 3 | 8 | | | | | | | 7 |
| 4 | | | 5 | | | 1 | 7 | |
| | | 8 | | 1 | | 2 | | |
| | | | 2 | | 7 | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Кадр з фільма “Тарзан. Легенда”.

# Каб перамагчы, адкрый сваю дзікую прыроду

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Сямейнае фэнтэзі “**Вялікі і добры велікан**” – добрая казка, якая абавязкова вас здзівіць. Рэжысура Стывена Спілберга аздобленая музыкай кампазітара “Зорных войнаў”, “Спіса Шындлера” і іншых вядомых карцін Джона Уільямса.

Абодва майстры стварылі такую атмасферу казкі, якая будзе прабіраць вас да мурашак. Пры гэтым не трэба чакаць ад фільма двайнога сэнсу ці глыбокага драматызму. І хаця гэта лёгкая і прыемная казка, яна знятая на такім узроўні, што пакідае ў гледача ўздых захаплення.

Дзяўчынка Сафі ніяк не магла заснуць. Апоўначы яна ўбачыла велікана, які падыходзіў да суседніх дамоў і дзьмуў у дамы спальняў. Велікан убачыў Сафі, схапіў яе і панёс дадому ў краіну велікананаў.

Ён быў адзіным добрым веліканам і пад сакрэтам збіраў добрыя сны, а пасля ноччу раздаваў іх дзеткам. А яшчэ ў велікана такія вушы, што ён чуе, пра што сны ў дзяцей, і не дазваляе ім сніць кашмары.

Фільм пад слоганам “Калі твой сябра велікан, цябе чакаюць вялікія справы” – найлепшая прапанова для сямей з дзецьмі.

Слоган баевіка “**Тарзан. Легенда**” падкупляе простасцю – “Чалавек. Прырода”. Гледачу прапануюць паназіраць за акцёрам шведскага паходжання Аляксандрам Скарсгардам у ролі галоўнага персанажа.

У гэтай гісторыі мы бачым і тое, як бацькі галоўнага героя трапілі ў джунглі і чаму Тарзан застаўся адзін. Праз шмат год ён апынаецца ў Лондане, дзе яго чакае звычайнае чалавечае жыццё і нават жаніцьба з прыгажуняй Джэйн.

Але каралева дала яму даручэнне вярнуцца ў Конга і прааналізаваць сітуацыю на рудніку па здабычы алмазаў.

Падазрэнні каралевы не былі марнымі – на рудніках адзін з кіраўнікоў праварочваў незаконную схему для сваёй нажывы. А калі Тарзан паспрабаваў яго спыніць, то злодзей узяў у заложнікі Джэйн.

І для Тарзана надыходзіць момант, калі для перамогі яму даводзіцца вярнуцца да сваёй іншай паловы сябе, да вытокаў дзікай прыроды ў чалавеку.

Пейзажы Афрыкі, і ўвогуле візуальная частка карціны, стануць для вас смачнай абгорткай, у якую загорнуты знаёмы сюжэт.

Драма “**Да сустрэчы з табой**” – найлепшы спосаб правесці рамантычны вечар. У фільме шмат выдатных жартаў, якія разбаўляюць кранальную любоўную гісторыю.

Дзяўчына згубіла працу і цяпер шукае новую. Ёй трапляецца прапанова даглядаць паралізаванага маладзёна. Маладыя людзі знаёмяцца і змяняюць жыццё адзін аднаго. З кінатэатра вы выйдзеце з пазітыўным настроем і добрымі думкамі.

Жахі пра апакаліпсіс атрымалі новы сюжэт. У карціне “**Мабільнік**” людзі ператвараюцца ў зомбі праз імпульс з сотавага тэлефона. Чарговая карціна пра знішчэнне чалавецтва і адзіны шанец выратаваць блізкіх.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы “Рэпертуары” на нашым сайце**

Rh.by



**На аўтамыйцы ў Маладзечне жыве кацяня, якога кліентка прывезла пад капотам**

Такі артыкул магла напісаць толькі Наталля Тур. Ну, вельмі кранальна:) ***Чытачка.***

**“Кола дзён” у спякотным Камарове (фотарэпартаж)**

Гады ідуць, а прадукцыя ў майстроў тая ж самая. Мяняюцца толькі цэны. ***Вера.***

**Саліст “Песняроў” Артур Міхайлаў: “Мне ежа сніцца начамі”**

Цяжка паверыць у тое, што такі буйвал есць у дзень толькі варанае яйка без жаўтка, жменю грэчкі без солі, вараную курыную грудку. ***Абжора.***

**Белстат апублікаваў дадзеныя аб канцэнтрацыі шкодных рэчываў у вадзе. Вілія – самая чыстая рака ў краіне**

Толькі рыбы там усё менш і менш. ***Ларыса.***

Вада залішне чыстая, вось рыба і сыходзіць на дальні кардон! ***Алег.***

Трэба малькоў дадаваць, і ўсё будзе добра. ***Галіна.***

**На пляжы ў Мядзеле з’явіўся пантон**

Класна, задаволены. *І.*

**Шукайце сябе і знаёмых на здымках фотамайстра Юрыя Горыда з фестывалю “Адна зямля” ў Астраўцы (Фота)**

Бачна адразу, што фоткі прафесійныя. ***Сяргей.***

Гэта ў нас у Астраўцы такі фатограф? Глядзела рот раскрыўшы. Шкада, што не трапіла на фестываль. ***Ганна.***

### ● ГАРАСКОП 8-14 ЛІПЕНЯ

**Авен.** Разбярыцеся ў сабе і сваіх пачуццях, перш чым улазіць у чужое жыццё і даваць парады. Займіцеся домам, знайдзіце час для сваёй сям’і, і ўсё пойдзе на лад.

**Цялец.** Цяпер вас лёгка пакрыўдзіць. Праявіце мудрасць – успрымайце ўсе падзеі, як урокі жыцця, якія неабходна вывучыць, асвоіць і выкарыстоўваць у далейшым. Бо не толькі ў радасці пазнаецца наш сапраўдны свет.

**Блізняты.** З’явіцца шмат ідэй, ды так, што вам захочацца іх рэалізаваць. Чакае поспех, але працуйце самі і не пускайце справы на самацёк.

**Рак.** Вы будзеце мець справу з законам – можа, з праваахоўнымі органамі, з судом ці проста афармляць нейкія дакументы. Гэта мае важнае значэнне для вашага фінансавага стану. Будзьце ўважлівыя.

**Леў.** Калі вы нічога не можаце змяніць ці выправіць, то гэты час трэба проста перажыць.

**Дзева.** Вы шмат зрабілі, і перад вамі адкрываюцца новыя перспектывы. У вас ёсць добры шанс зарабіць і палепшыць свой фінансавы стан.

**Шалі.** Дапамагаючы іншым, вы зможаце займець мір і шчасце, гармонію ва ўласнай душы. Шлях дабрачыннасці прывядзе да прасвятлення. Вам прыйдзецца ўясніць гэту мудрасць і ўвасобіць яе ў жыццё.

**Скарпіён.** Не кідайцеся з крайнасці ў крайнасць, спачатку разбярыцеся ў сабе, што вам на самой справе трэба.

**Стралец.** Не зайздросце чужому поспеху, асабліва ў справах, якія тычацца матэрыяльнай сферы. Памятайце: кесару – кесарава.

**Казярог.** Жыццё не такое дрэннае, як гэта здаецца. Хутка вас чакаюць змяненні, у першую чаргу яны будуць тычыцца поглядаў і адносін да навакольнага свету. Магчыма, вам прыйдзецца ўсвядоміць тыя факты, якія вы не хацелі прызнаваць. Тым не менш ваша жыццё стане паляпшацца, з’явяцца радасныя гарызонты.

**Вадалей.** Вы можаце ганарыцца сабой. Вам удасца многага дабіцца, паказаць сябе з лепшага боку. Вашы дасягненні і заслугі адкрываюць новыя перспектывы. Але не лунайце ў аблоках, бо з-за іх можаце не ўбачыць свой шлях.

**Рыбы.** Вам прыйдзецца добра папрацаваць, але і ўзнагарода будзе годная, апынецеся літаральна ля рога, дзе ўсяго многа.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 9 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 | | +14 | | +13 | | +17 | |
| | +20 | | +14 | | +20 | | +23 | |
| | 739 | → 7 | 735 | ↗ 2 | 738 | → 5 | 733 | ↗ 5 |
| Вільня | +12 | | +13 | | +12 | | +13 | |
| | +16 | | +18 | | +21 | | +21 | |
| | 747 | → 6 | 744 | → 3 | 745 | ↗ 3 | 740 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 4.51
Захад 21.44
Даўжыня дня 16.53


Усход 10.48
Захад 23.56
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +5,9 °С у 1992 годзе
Максімальная тэмпература +32,2 °С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 22,3 мм у 1973 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Для адных дэнамінацыя – стрэс, як разабрацца ў новых грошах. Для іншых – новыя эмоцыі ад таго, што трымаеш у руках новыя купюры. А вось для Андрэя Гайчука з Вілейкі – гэта штуршок, каб сабраць уласную калекцыю. Якую калекцыю збірае віляйчанін, чытайце ў наступным нумары.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАЎЦА



**Тое пачуццё радасці, калі ў двары паставілі пясочніцу. Завулак Кастрычніцкі, Астравец. Здымак фотамастака Юрыя Горыда.**



● ГУМАРЭСКІ

### Прафесар і студэнт

– Што за прадукт выключны хімія адкрыла?
– Яна, прафесар, нам бландзінак падарыла.

***

*Юнак – дзяўчыне*
*ў задуменні:*
*– Былі ў кіно,*
*на аўтатрэку,*
*З табой глядзелі*
*цырк на сцэне,*
*Хадзілі ў парк,*
*на дыскатэку…*
*Ідзём куды на гэты*
*раз?*
*– Цяпер у ЗАГС!*
*– яна ў адказ.*

### У бары

– Гарэлкі мне!
– Вам даць з сабой?
– Ды не, без вас.
Іду дамоў…

### Кіназорка на прыёме ў доктара

*Зайшла і ў доктара*
*пытае:*
*– Скажыце,*
*раздзявацца мне?*
*– Я ж вас даўно*
*па фільмах знаю,*
*Цяпер не трэба,*
*дзякуй, не.*

### Прыкмета

– Ці праўда, жанчына на судне – к няўдачы?
– На судне, на моры, на сушы, на дачы...

***

Калі вам сніцца...
Што вы багаты і здаровы, –
Не прачынайцеся, панове!

**Пётр ШАКОЛА, Ашмяны.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці будзеце вы адкладаць капейкі ў скарбонку, каб сабраць грошы на якую-небудзь рэч?



**Аляксандра Завадская, фельчар на станцы "хуткай дапамогі", Маладзечна:**
– Ой, дзякуй за падказку. Я яшчэ нават не думала пра гэта, што грошы можна збіраць такім чынам. На што збіраць? Я веру ў тое, што думкі матэрыяльныя, таму адразу замахнуся на машыну.



**Дзмітры Вашынка, майстар на мясакамбінаце, Маладзечна:**
– Абавязкова буду збіраць грошы, але пакуль яшчэ не рашыў на што. О, на новую скарбонку і пачну збіраць!



**Іван Іванчык, студэнт, Валожын:**
– Не, не буду адкладаць. Буду адразу мяняць на папяровыя грошы. Ці траціць манеты ў першую чаргу. Я ніколі не карыстаўся манетамі, мне больш зручныя папяровыя грошы.



**Валер Цайко, кіроўца, Маладзечна:**
– Канешне! Ужо пачаў адкладаць на адпачынак у Іспаніі.



**Вераніка Капуцкая, кантралёр у банку, Маладзечна:**
– Не, я капейкі збіраць не буду. Але планую дзіцяці набыць скарбонку. Дачцэ ў восем гадоў будзе цікава кідаць манеткі ў якую-небудзь "свінку".



**Юры Казлоўскі, кіроўца, Маладзечна:**
– Не, я збіраць не буду. Такім спосабам немагчыма на нешта назбіраць.



**Ала Акімава, у дэкрэтным адпачынку, Гродна:**
– У капейках грошы збіраць не мае сэнсу, бо я не лічу нашы грошы стабільнымі. Я аддаю перавагу збіранню грошай у іншай валюце.

**Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1106) 8.07.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 659 . Падпісана ў друк у 9.00 7.07.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.